



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 канал

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

3 кастрычніка 2014 года №40 (1014)



Глядзі ВІДЭА. Сацыяльны эксперымент: як у Беларусі і Польшчы адгукаюцца на просьбу дапамагчы. 4 кастрычніка, субота. Rh.by



"Лядовыя пінгвіны" пачалі новы сезон. Чаму жонкі маладзечанскіх хакеістаў думалі, што іх мужы ходзяць замест трэніровак на "гулі" старонка 22

Беларусь і Літва. Дзе выгадней закупляцца с. 3

Браканьер атрымаў 126 мільёнаў штрафу с. 4

Байкеры уручылі падарункі дзецям з прытулку на моладзевым форуме "Час жыць" с. 21


# Віктар Жук: Мой "Оскар" – гэта ўдзячнасць дзяцей

**МАЛАДЗЕЧНА. Віктар Жук, 27-гадовы настаўнік гісторыі сярэдняй школы №11, стаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу "Настаўнік года Беларусі – 2014".**

Дамовіцца аб сустрэчы было не проста не таму, што Віктар не хацеў сустракацца, а таму, што ў яго ўрокі.

– Я не магу пакінуць 8 "Г", дачакаемся перапынку!

Дзеці для Віктара Эдуардавіча важней за ўсё. У гэтым, кажа ён, і ёсць сэнс настаўніцтва.

– Хай вас не здзіўляе, што я так стаўлюся да ўсяго, што адрывае ад урокаў. Перамога ў конкурсе зусім не значыць, што я стаў лепшым настаўнікам краіны, мне толькі пашчасціла перамагчы ў адным конкурсе.

**– "Крыштальны журавель", прыз конкурсу – як "Оскар" для акцёраў. Да чаго цяпер імкнуцца?**

– Мой "Оскар" – прыз дзіцячых сімпатый, які атрымаў у фінале конкурсу. Цяпер застаецца рухацца наперад. Сучасныя дзеці многае разумеюць хутчэй, чым дарослыя. Таму трэба ўдасканальвацца самому.

Гісторыкам Віктар Жук марыў быць з дзяцінства. Да таго, як прыйсці ў школу, Віктар працаваў на будаўніцтве. Але зразумеў, што з вучнямі яму цікава. А да таго, што настаўнік – не мужчынская работа, ставіцца скептычна.

– Настаўнік – не грашовая праца, гэта праўда. Можа, таму сярод настаўнікаў мала мужчын. Але гэтае пытанне ўжо не да мяне.

**– Ці змянілася ваша жыццё пасля конкурсу?**

– Канешне! Не магу нармальна весці заняткі. Але спадзяюся, што яшчэ тыдзень – і гэта скончыцца.

**– Вы казалі, што, каб распавесці пра мануфактуру, на ўроку разыгрываеце мануфактуру...**

– Ну, гэта таксама задача настаўніка – проста расказваць пра незразумелае.

**– А калі тэма прыгоннае права?**

– Можам і адмяніць, з лёгкасцю!

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Ганаровае званне "Настаўнік года" для пераможцы конкурсу Віктара Жука не мяняе тое, што вучні – на першым месцы. Прыемным бонусам сталі падарункі. Тэлевізар, які ён атрымаў у прыз, аддаў маладзечанскаму прытулку. А яму самому цяпер выдзеляць асобны кабінет з сучасным абсталяваннем. На здымку – са сваімі вучаніцамі Ганнай Івашкевіч і Лізаветай Жаўток (злева направа).

ГАСПАДАРКА

# Куды здаць яблыкі, пакуль яны не падгнілі

**МАЛАДЗЕЧНА. Колькі можна атрымаць за гэта грошай і куды здаюць яблыкі нарыхтоўшчыкі.**

У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" патэлефанаваў чытач **Аляксандр Цадко** з Лебедзева. Ён разам з жонкай сабраў паўтары тоны яблыкаў. Дамовіўся здаць іх у "Маладзечнагандль". Абяцалі забраць іх у панядзелак.

### Яблыкі не будуць чакаць, пакуль іх забяруць, – згніюць

Пад дажджом муж і жонка цягалі мяхі з яблыкамі на вуліцу, каб было больш зручна забіраць. Аднак ніхто па іх не прыехаў. У аўторак жонка ўвесь дзень чакала машыну, якая так і не прыйшла. На званкі Аляксандра не адказвалі. У сераду ён пачаў шукаць дапамогу праз "Рэгіянальную газету".

– Шкада яблыкаў – гніюць! – з крыўдай у голасе гаворыць чытач "РГ". – Яшчэ некалькі дзён, і трэба будзе думаць не пра тое, каб здаць яблыкі. А пра тое, дзе знайсці людзей, каб выкінуць гэта гнілло. Ды і не кожны пагодзіцца на такую работу.

Як адзначыў Аляксандр, ён не адзіны ў Лебедзеве, хто не можа здаць яблыкі.

### "Не было выпадкаў, каб у чалавека не прынялі яблыкі"

У Маладзечне прымаюць яблыкі два прадпрыемствы – Маладзечанскае райспажыўтаварыства і "Маладзечнагандаль".



Фота services.flikie.com.

Толькі добрасумленнасць і з боку гаспадароў, і з боку прадпрыемстваў дапаможа захаваць яблыкі ў такім стане, каб іх можна было есці нават дзецям.

**Галіна Далінкевіч**, першы намеснік старшыні Маладзечанскага райспажыўтаварыства, патлумачыла:

– Мы прымаем яблыкі ва ўсіх, хто звяртаецца да нас. Калі, напрыклад, уся тэхніка занятая, то прызначаем чалавеку пэўны час, – адзначае спецыяліст. – У нас не было выпадкаў, каб у чалавека ўвогуле не прынялі яблыкі. Калі машына не паспявае прыехаць, чалавеку тэлефануюць, тлумачаць, што здарылася, прызначаюць іншы час.

Каб вырашыць праблему, спецыяліст прапанавала чытачу звярнуцца ў райспажыўтаварыства.

### Замест яблыкаў здаюць камяні

Галіна Далінкевіч адзначае, што выпадкаў, калі яблыкі гніюць, вельмі мала. А вось распаўсюджаная з'ява, калі замест яблыкаў здаюць камяні.

За дзень райспажыўтаварыства збірае 25-30 тон яблыкаў. Усяго на канец верасня нарыхтавалі 1400 тон.

Сабраныя яблыкі здаюць на харчовыя камбінаты ў Весялова, Ілава, Маладзечна, таксама на агракамбінат "Сноў". Камбінаты плацяць па 300 рублёў за кілаграм.

### Часам тэхніка простойвае

**Людміла Смалянка**, намеснік дырэктара "Маладзечнагандалю", адзначыла:

– Наша арганізацыя здае яблыкі на харчовы камбінат у Маладзечне. Аднак цяпер на ім не праца прэс. Таму не заўсёды мы можам здаваць вялікія аб'ёмы яблыкаў. Здараецца часам такое, што трактары прастойваюць. Таму сярод людзей устанавілі чаргу.

Раней "Маладзечнагандаль" здаваў яблыкі на "Піўзавод Аліварыя", на спіртагарэлачны завод "Аквадзіў". Аднак сёлета гэтыя прадпрыемствы не прымаюць яблыкі.

**Ала Насякайла**, намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях Маладзечанскага харчовага камбіната, адзначае:

– Дзень на дзень не прыходзіцца. У адзін дзень могуць здаць 15 тон яблыкаў, а ў другі – 50.

Яны ідуць на кансервы, на віно. Частку з іх замарожваюць, частку адкладаюць на захоўванне.

**Галіна СІНІЦА.**

ЛІЧБА НУМАРА

**285 000**

На столькі жанчын у Беларусі больш, чым мужчын

АФІЦЫЙНА

## Да дня стандартызацыі

**МАЛАДЗЕЧНА. 14 кастрычніка адзначаецца Міжнародны дзень стандартызацыі.**

У Беларусі яго адзначаюць ад 1992 года. Гэта год з'яўлення Дзяржстандарту.

Дзяржаўныя стандарты дапамагаюць зрабіць бяспечнай прадукцыю, работы і паслугі для жыцця, здароўя і маёмасці, забяспечваюць ахову навакольнага асяроддзя, сумяшчальнасць і ўзаемазамяняльнасць прадукцыі, маркіроўку прадукцыі, адзінства метадаў кантролю. Яны вызначаныя заканам як абавязковыя для выконвання.

У нашай краіне стандартызацыя пастаянна развіваецца, напрамкі яе дзейнасці пашыраюцца. Знаходзяцца новыя актуальныя задачы, рашэнне якіх патрабуе сучасных стандартаў.

Сёння ідзе працэс фарміравання агульнага рынку ў рамках Мытнага Саюза Беларусі, Казахстана і Расіі, у якім найважнейшым элементам выступаюць тэхнічныя рэгламенты Мытнага Саюза. Цяпер іх прынята 34, і ўжо большая палова ўступіла ў сілу.

**Галіна ФЯДОСІК,**
**вядучы інжынер РУП "Маладзечанскі ЦСМС".**



ВЫСТАВЫ

## У Вілейцы пазнаёмяць са старонкамі жыцця Янкі Купалы

**ВІЛЕЙКА. У зале выстаў імя Сілівановіча краязнаўчага музея 4 кастрычніка пачнецца выстава "Я – шлях, якому век няма спакою…". Яна з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.**

Выстава бліжэй пазнаёміць з класікам беларускай літаратуры, яго жыццём і творчасцю ў гады Першай сусветнай вайны, паведаміла навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**.

На выставе можна будзе ўбачыць пераклады твораў Янкі Купалы на рускую мову, зробленыя Валерыем Брусавым у Вільні, нумары славутай газеты "Наша Ніва" з белымі плямамі.

Сведчаннем ваеннай службы паэта ў дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін з'яўляецца ўнікальны фотаальбом 1914–1918 гадоў яго шваґра **Вікенція Станкевіча**, які экспануецца ўпершыню.

Адкрыццё выставы – а 12-й гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**

МУЗЕІ

## Віляйчан адзначылі за малюнкі на шкле

**ВІЛЕЙКА. 26 і 27 верасня ў Гомелі праходзіў другі Нацыянальны форум "Музеі Беларусі". У ім бралі ўдзел каля ста дзяржаўных музеяў Беларусі.**

Асобную экспазіцыю паказала Мінская вобласць. Сярод 11 музеяў з Міншчыны быў і Вілейскі краязнаўчы. Прэзентавалі віляйчане экспазіцыю, прысвечаную 100-годдзю пачатку Першай сусветнай вайны, паведаміў дырэктар установы **Сяргей Ганчар**.

Музеі Міншчыны ўзнагародзілі за лепшае прадстаўленне на форуме.

У межах форуму праходзіў конкурс сярод музеяў Беларусі па шасці намінацыях. У намінацыі "Лепшая арганізацыя выставы з уласных фондаў" вілейскі музей атрымаў дыплом трэцяй ступені. Адзначылі яго за серыю выстаў інсітнага мастацтва "Малюнкі на шкле". Выставы праходзілі ў Вілейцы, Магілёве, Гомелі, Мінску.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Інсітнае мастацтва (наіўнае мастацтва) – галіна выяўленчага мастацтва. Творчасць мастакоў, якія не маюць прафесійнай мастацкай падрыхтоўкі.

● СПАЖЫВЕЦ

# Беларусь і Літва. Дзе выгадней купляць

**МАЛАДЗЕЧНА. Карэспандэнтка "РГ" прайшлася па Кальварыйскім рынку ў Вільні і параўнала цэны на беларускія і літоўскія прадукты адпаведна спісу, які мы друкуем у кожным нумары газеты. Курс літа на 19 верасня складаў 3929,18 рубля.**

Самыя папулярныя прадукты, якія прывозяць з Літвы, – гэта кава, мяса, рыба, шакалад і спіртное. Яны таннейшыя ўдвая.

– Я звычайна вязу з Вільні шакалад, рыбу, алкаголь, – кажа маладзечанка **Надзея**, якая тры тыдні таму ездзіла на чарговы шопінг у суседнюю краіну. – Кілаграм свежага патрошанага ласося каштуе там у пераводзе на нашы грошы каля 70 тысяч рублёў, кава нямецкая распушчальная "Якабс", 200 грамаў, – 68 тысяч, а паўкілаграма молатай – 55 тысяч. Не памятаю беларускія цэны, але ў Літве танней.

Кілаграм замарынаванага свінога шашлыка каштуе ў літоўскай буйной краме каля 50 тысяч рублёў. У маладзечанскай – 103 тысячы.

Сыры – літоўскі гонар. У крамах і на рынках шмат гатункаў мясцовай вытворчасці. Беларусы вязуць іх як сувенір, бо такіх сыроў у Беларусі няма. Каштуюць яны ад 70 тысяч рублёў за кіло да 200 тысяч.

Вязуць з суседняй краіны і спецыі. На адным 200-грамовым слоіку сумесі перцаў можна зэканоміць да 30 тысяч рублёў.

Параўнаць цэны на іншыя прадукты можна ў табліцы справа.



Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com



Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 25.09 руб. | 02.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 560,00 | **10 600,00** |
| Еўра | 13 580,00 | **13 370,00** |
| Злоты | 3 247,43 | **3 194,26** |
| Літ | 3 930,91 | **3 865,37** |
| Расійскі рубель | 275,50 | **267,50** |
| Грыўня | 818,60 | **818,53** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13550/13680 | **13340/13450** |
| Долар ЗША | 10540/10590 | **10580/10630** |

| Цэны на рынку | (Маладзечна) 1.10 | Вільня 19.09 |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | 51000 |
| Сасіскі, 1 кг | 51700 | 47000 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | 31400 |
| Ялавічына (выразка), 1 кг | 110000 | 86400 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | - |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | 30900 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 99900 | 39300 |
| Рыс, 0,9 кг | 13000 | 15000 |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | 15700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | 12600 |
| Алей сланечнікавы | 14300 | 27000 |
| Маянэз, 200 г | 6850 | 9800 |
| Соус таматны, 0,5 л | 9800 | 15200 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | 15700 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10000 | 13300 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6000 | 2800 |
| Капуста, 1 кг | 3500 | 3100 |
| Морква, 1 кг | 6000 | 3100 |
| Буракі, 1 кг | 5000 | 4700 |
| Лімоны, 1 кг | 34500 | 31000 |
| Апельсіны, 1 кг | 16900 | 13000 |
| Мандарыны, 1 кг | 26900 | 17600 |
| Памідоры, 1 кг | 9500 | 13700 |
| Агуркі, 1 кг | 17900 | 13700 |
| Кавун, 1 кг | 7000 | 7000 |
| Дыня, 1 кг | 12000 | 12000 |
| Вінаград, 1 кг | 17900 | 19000 |
| Бананы, 1 кг | 12900 | 13700 |
| Яблыкі, 1 кг | 7500 | 7000 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 19900 | 6600 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | 19600 |
| Масла, 1 кг | 90000 | - |
| Тварог, 1 кг | 50000 | - |
| Бульба, 1 кг | 4000 | 4500 |
| Сала, 1 кг | 100000 | 47000 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | 19200 |

● НАШЫ ГРОШЫ

## Тэлефонная сувязь падаражэла трэці раз за год

**Падаражанне сёлета было 1 жніўня і 20 мая. Ад першага кастрычніка зноў змяніліся цэны. Аплата тэлефонай сувязі вырасла на 20%.**

Ціпер абаненцкая плата для фізічных асоб – 17650 рублёў. Хвіліна тэлефонных размоў вырасла да 44,6 рубля. Хвіліна міжгародніх – да 89,4 рубля.

Для юрыдычных асоб абаненцкая плата стала 21500 рублёў. Хвіліна тэлефонных размоў ціпер 74 рублі, а хвіліна міжгародніх – 105 рублёў.

### Маладзечанскі раён цалкам пераведзены на пахвілінную сістэму аплаты

У адпаведнай пастанове Міністэрства эканомікі, якая рэгулюе аплату за тэлефонную сувязь, прапісаныя тарыфы за пахвілінную сістэму. У яе ўваходзіць абаненцкая аплата і аплата размоў. А ёсць таксама тарыфы толькі на абаненцкую аплату. Яна вышэйшая, чым пахвілінная.

**Канстанцін Ратомскі**, начальнік Маладзечанскага вузла электрасувязі адзначыў:

– У Маладзечанскім раёне ўсе пераведзеныя на пахвілінную сістэму аплаты. Раней, калі не было патрэбнай апаратуры, большасць людзей плацілі толькі абаненцкую плату. Але яна была значна вышэйшая. Калі ж з'явілася апаратура, то ўсіх і перавялі на пахвілінную сістэму аплаты.

Канстанцін Аляксеевіч адзначыў, што ў пастанове прапісваюць цэны і на абаненцкую сістэму аплаты. Гэта звязана з тым, што ў краіне яшчэ ёсць раёны, дзе няма патрэбнай апаратуры.

Таксама ён заўважыў, што перайсці толькі на абаненцкую аплату пакуль немагчыма. Можа, праз некаторы час з'явяцца розныя пакеты паслуг.

**Галіна СІНІЦА.**

● РЫБАЛОЎСТВА

# За браканьерства можа сесці на шэсць гадоў

**ВІЛЕЙКА. На Вілейскім вадасховішчы 136 кілаграмаў рыбы незаконна налавіў жыхар гарадскога пасёлка Плешчаніцы Лагойскага раёна.**

Супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету затрымалі яго каля 21 гадзіны 24 верасня. Адбылося гэта паблізу дзіцячага цэнтра "Надзея".

Мужчына незаконна здабыў 70 судакоў, 100 ляшчоў, 26 акунёў і іншую рыбу.

**Выкарыстоўваў ён восем сетак з лёскі агульнай даўжынёй у паўкіламетра.**

Парушальнік прычыніў шкоду навакольнаму асяроддзю на суму больш за 114 мільёнаў рублёў.

Кошт незаконна здабытай рыбы складае каля 12 мільёнаў рублёў, паведаміў начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету **Валеры Кляноўскі**. Таму агулам ён павінен 126 мільёнаў.

Вілейскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу.

Гэты аматар рыбалкі неаднаразова прыцягваўся як да адміністрацыйнай, так і да крымінальнай адказнасці за незаконную здабычу рыбы.

Усяго за два дні да затрымання суд Лагойскага раёна прыцягнуў 37-гадовага мужчыну да адміністрацыйнай адказнасці за незаконную рыбалку. Аднак ён зноў пайшоў на злачынны промысел.

За злачынства парушальніку пагражае да шасці год пазбаўлення волі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

● ЗДАРЭННІ

## На пажары на Вілейшчыне загінуў 53-гадовы вясковец

**ВІЛЕЙКА.** Пажар адбыўся ў вёсцы Карытніца Ільянскага сельсавета. Пра яго каля васьмі гадзін раніцы 29 верасня выратавальнікам паведаміў сусед.

Па прыбыцці на месца выратавальнікі ўбачылі, што драўляны дом гарыць адкрытым полымем.

У выніку дом выгараў з сярэдзіны, агонь знішчыў дах. А самае страшнае – што ў доме знайшлі цела 53-гадовага гаспадара.

Прычыну пажару ўстанаўліваюць, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч**. Разглядаюцца дзве версіі: ці неасцярожнасць пры курэнні, ці парушэнне правілаў эксплуатацыі пячнога ацяплення.

**Аддзел інфармацыі.**

## Перакуліўся байкер-штрафнік

**СМАРГОНЬ.** Здарэнне адбылося вечарам у нядзелю, 28 верасня.

Кіроўца "Опеля" перастройваўся ў паласу, па якой рушыў байкер. Кіроўца матацыкла "БМВ" спрабаваў пазбегнуць сутыкнення.

Але ён не справіўся з кіраваннем, наскочыў на бардзюр і перакуліўся. Матацыкліста шпіталізавалі.

Сёлета яго ўжо тры разы штрафавалі за перавышэнне хуткасці. За два гады ён сабраў шэсць штрафаў.

**Па інфармацыі Дзяржаўтаінспекцыі Гродна і Гродзенскай вобласці.**

● ВЫШУК

## На Вілейшчыне шукаюць 77-гадовага мужчыну

**ВІЛЕЙКА. Да цяперашняга часу невядомае месцазнаходжанне Юрыя Ляўко.**


Фота забяспечана Кацярынай КУРЭЦ.

Юры Ляўко.

Ён 4 верасня з'ехаў на падлеткавым фіялетавасінім ровары "Бусел" з металічным кошыкам на багажніку са свайго лецішча ў Прынце Вілейскага раёна.

Знікламу – 77 год.

**Яго прыкметы: на выгляд 75-77 гадоў, шчыльнага целаскладу, валасы сярэдняй даўжыні, сівыя, нос скрыўлены.**

Быў апрануты: зялёна-шэрая кашуля з доўгім рукавом ваеннага ўзору, штаны спартыўныя цёмна-сінія з устаўкамі ў выглядзе гарызантальных чырвоных і зялёных палос унізе, карычневыя чаравікі на шнурках, трусы сямейныя зялёныя з белымі ўстаўкамі.

Паважаныя грамадзяне! Калі вы ўбачылі безгаспадарны фіялетава-сіні ровар "Бусел" ці калі вам што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне Юрыя Ляўко, тэлефануйце па нумарах: **8-01771-56-462, 8029-507-66-86 або 102**.

**Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

● ПАЛЯВАННЕ

## Змяніліся правілы для паляўнічых

**У новай рэдакцыі Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання ёсць карэкціроўкі. Яны тычацца тэрмінаў, спосабаў і зброі для палявання на асобныя віды жывёлы.**

Паляванне на лася, аленя, лань, дзіка і казулю можа доўжыцца суткі, хаця раней можна было ад 18 вечара да 9 раніцы. Пакуль весці можна толькі з падыходу і з засады.

Змяніліся правілы палявання на бабра і выдру. Яно пачалося ад 1 верасня і закончыцца толькі 31 сакавіка – пазней на месяц. Цягам усяго месяца можна паляваць і са стрэльбай, і без яе (раней ад 1 лютага да 1 сакавіка дазвалялася толькі без стрэльбы). Цяпер можна карыстацца пасткамі №3-7 (раней – толькі №5-7).

На пералічаных жывёл можна паляваць з лукам і арбалетам. Але яны павінны мець адпаведныя параметры. Лук – сілай нацяжэння ад 27 кілаграмаў, арбалет – ад 43 кілаграмаў.

Паляванне на фазана пачынаецца амаль на месяц раней – з другой суботы жніўня.

**Цяпер забаронена здабываць старак цецерука (самак, што вядуць малады вывадак). Таму з правілаў выключылі паляванне на цецерука з лоўчымі птушкамі.**

На два месяцы павялічылі перыяд палявання на норку амерыканскую і андатру: ад 1 верасня да 31 сакавіка. У верасні на іх можна паляваць толькі без стрэльбы, толькі з пасткамі.

Тэрміны палявання на вадаплаўную і балотную дзічыну, вальдшнэпа, вехіра, шызага голуба, перапёлку, курапатку не змяніліся.

**Андрэй ЗАПАСНІК, начальнік Маладзечанскай міжраённай інспекцыі.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Да аштрафаваных кіроўцаў прыходзяць дамоў па даўгі

**МАЛАДЗЕЧНА. Падчас чарговага рэйду 23 верасня наведалі чатырох даўжнікоў. Трое з іх выплацілі запазычанасць, а ў адносінах да аднаго паслалі прэтэнзію на работу.**

Рэйд праводзілі работнікі маладзечанскага аддзела ДАІ і судовыя выканаўцы аддзела прымусовага выканання.

Судовыя выканаўцы могуць даць адтэрміноўку, каб даўжнік выплачваў штраф штомесяц. А могуць арыштаваць маёмасць, пакуль ён не выплаціць запазычанасць. Калі ён не выплачвае штраф, маёмасць могуць забраць у лік доўгу.

Некаторыя кіроўцы час ад часу парушаюць правілы дарожнага руху, але не плацяць за штрафы.

Атрымаўшы штраф, кіроўца мусіць выплаціць яго цягам 30 сутак і занесці квітанцыю ў аддзел ДАІ.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

ЗНАХОДКІ

# Пасля знаходкі шаблі пачалі капаць у парку

**ВІЛЕЙКА. Пасля знаходкі кавалерыйскай шаблі часоў вайны 1812 года ў вёску Шылавічы на Вілейшчыне прыязджаюць не толькі журналісты, але і аматары пашукаць старыя рэчы.**


Калаж Алеся ВЫСОЦКАГА.

Шабля і двое з тых, хто яе знайшоў: Данік Ламака і Аліна Маліноўская.

Знайшлі шаблю 20 верасня. **Вольга Субота** з Шылавічаў прыгадвае:

– Ішла, убачыла ў парку купку дзяцей: два першакласнікі і тры дзяўчынкі большыя. Папрасілі дапамагчы: "Мы не можам дастаць". Гляджу: нейкую рэч напалову дасталі, але яна за карані чапляецца. Самы маленькі з дзяцей – Данік – збегаў за лапатай. Адсеклі карані і дасталі. "О, гуляць будзем", – кажуць малыя. А я так машынальна: "Гэта, пэўна, у музей трэба".

Дзеці пагадзіліся. Толькі папрасілі сфатаграфавацца са знаходкай.

Знайшлі шаблю з ножнамі ля пня ад вялізнай ліпы.

– Мо, год дзвесце той ліпе было, – кажа Вольга. – Такая тоўстая! Ледзьве яе спілавалі.

**Дома дачка па манаграме на шаблі знайшла ў інтэрнэце, што ёй больш за два стагоддзі.**

На манаграме ініцыялы Жэрома Банапарта – караля Вестфаліі і малодшага брата Напалеона Банапарта. У 1812 годзе Жэром Банапарт камандаваў адной з часцей французскай арміі.

### Шаблю хацелі купіць

Дзеці адразу расказалі пра знаходку, выклалі здымкі ў сацсеткі. Неўзабаве сталі тэлефанаваць ахвотныя яе набыць. Але ж шаблю, як і вырашылі адразу, перадалі супрацоўнікам Вілейскага краязнаўчага музея.

*Рэакцыя на гэта людзей была розная, кажа Вольга:*

*– Хто казаў, чаму сабе не забрала, а аддала дзяржаве. Іншы гавораць, што так, як зрабілі, – самы лепшы варыянт.*

Вольга спадзяецца, што дзяцей заахвоцяць за знаходку.

### "Тут ужо акопы нарытыя ў нас"

Шабля выклікала цікавасць не толькі ў музейных работнікаў. Хтосьці спрабуе паўтарыць поспех дзяцей.

– Тут ужо акопы нарытыя ў нас, – кажа Вольга Субота. – Вечарам, ноччу – невядома хто капае.

### Ці трафей, ці пахаванне

Шабля з-за доўгага знаходжання ў зямлі пакрылася ржой, але засталася вострай.

– Пакуль дакладна немагчыма сказаць, як яна там аказалася. Магчыма, гэта шабля трафейная ці сувенірная, – патлумачыла старшы навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Вольга Коласава**. – Тут да 1939 года быў маёнтак. А магчыма, тут было воінскае пахаванне: армія Напалеона двойчы праходзіла праз тэрыторыю Вілейшчыны. У любым выпадку знаходка мае гістарычную каштоўнасць.

Шаблю аддадуць на рэстаўрацыю, каб потым яна папоўніла экспазіцыю музея.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЗДАРОЎЕ

## Паклапаціцеся, каб не захварэць

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад першага кастрычніка пачаўся сезон эпідэмічнага пад'ёму хвароб на грып і вострыя рэспіраторныя інфекцыі.**

Калі чалавек хварэе на грып, паражаюцца верхнія дыхальныя шляхі, адбываецца агульная інтаксікацыя. Шкода ад віруса грыпу розная. Ён можа пашкодзіць лёгкія, нервовую, сардэчна-сасудзістую і мочапалавую сістэмы. Праз гэта могуць узнікнуць ускладненні.

Асноўны спосаб прафілактыкі грыпу – вакцынацыя. Прышчэпкі робяць і дзецям, і дарослым. Бясплатна іх робяць хворым на хранічныя захворванні, людзям пасля 65, работнікам у закрытых калектывах, медработнікам, работнікам устаноў адукацыі і культуры, службовым асобам, што займаюцца жыццезабеспячэннем раёна. Для іх выкарыстоўваюць кітайскую вакцыну "Флюваксін".

Астатнім прапануем рабіць прышчэпкі за кошт прадпрыемства ці ўласны. Найчасцей выкарыстоўваюць французскую вакцыну "Ваксігрып", нідэрландскую "Інфлювак" ці расійскую "Грыпол +".

Бясплатную вакцыну ўводзяць у паліклініках, участковых бальніцах, амбулаторыях, ФАПах. За свае грошы дарослым можна прышчапіцца ў Маладзечанскай паліклініцы №1, дзяцям – у дзіцячай паліклініцы.

Прымайце і іншыя меры, каб засцерагчыся ад хваробы. Добра харчуйцеся: не адмаўляйцеся ад мяса, рыбы, птушкі. Не забывайце на садавіну і гародніну. Ешце цыбулю, часнок і хрэн. Займайцеся фізкультурай і спортам – гэта павысіць працаздольнасць і загартуе арганізм.

Клапаціцеся пра сябе і сваіх блізкіх. Апранайцеся па надвор'і, беражыце ногі, каб не прамоклі. Высыпайцеся і сцеражыцеся стрэсаў.

**Людміла ЕРМАЧЭНКА,**
**доктар-эпідэміёлаг,**
**загадчыца аддзела эпідэміялогіі**
**Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

ЮБІЛЕІ

## Курортны пасёлак Нарач адзначыць 50-годдзе

**МЯДЗЕЛ.** У Нарачанскім краі адзін за адным святкуюць юбілеі населеных пунктаў. 690-годдзе першай згадкі пра Мядзел адзначылі 20 верасня. А 5 кастрычніка адбудзецца свята ў курортным пасёлку Нарач (Купа). Прысвячаецца яно 50-годдзю з дня заснавання пасёлка.

Пройдзе свята ў "Зялёным тэатры". Пачнецца яно ў 15 гадзін.

У праграме – канцэрт, кірмаш народных майстроў, спартыўныя спаборніцтвы, дзіцячыя забавы.

**Аддзел інфармацыі.**

НАРОДНЫЯ МАЙСТРЫ

# Вывозяць з Нарачы лебедзяў. Папяровых

**МЯДЗЕЛ. На памяць пра адпачынак на Нарачы многія купляюць папяровых лебедзяў. Як ствараецца папулярны сувенір і калі папяровы прыгажун бывае ўвесь у валюце?**

Пра гэта распавёў народны майстар **Сяргей Чапурко** з курортнага пасёлка Нарач (Купа).

### Пачынаў з лазы

Адразу на Мядзельшчыне Сяргея ведалі выключна як майстра лозапляцення. Захапіўся ён гэтай справай год пятнаццаць таму. Прыязджаў з Нарачы на выхадныя на малую радзіму – Случчыну. А там сусед, які пераехаў з чарнобыльскай зоны, пляценнем з лазы займаўся. Зацікавіўся:

– У яго прыгожыя рэчы атрымліваліся. Ён мне многія сакрэты перадаў, якія не знойдзеш і ў кнігах.

Навучыўся Сяргей гэтай справе. Пано, кошыкі, талеркі – усё, апроч мэблі, можа зрабіць.

### Арыгамі навучылі дзеці

Яго лебедзі зробленыя ў тэхніцы арыгамі. Навучыўся асновам арыгамі Сяргей Чапурко год пяць таму. Працаваў тады ў санаторыі "Нарачанскі бераг". Там адпачывалі дзеці з Магілёўшчыны, якія займаліся арыгамі. І яму паказалі тэхніку.

Знайшоў потым кнігу з апісаннем працэсу. Але лебедзі ў яго па-свойму зробленыя:

– Па кніжцы з клеем іх трэба рабіць, а я без. Бо клей пажаўцее, і непрыгожая работа стане.

Робіць лебедзяў са звычайнай офіснай паперы. Але, бывае, з каляровай эксперыментуе, з арнаментам маляўнічым зробіць. Самы маленькі з лебедзяў – сантыметраў 15-20, а найвялікшы – да паўтара метра вышынёй быў.

**– Чым больш цяпер займаецеся: лазой ці арыгамі?**

– І тым, і тым. У кватэры – арыгамі. Сядзіш на канапе і робіш. А на лецішчы лазой займаюся. Для гэтай працы месца больш трэба.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Майстар Сяргей Чапурко дэманструе папяровага лебедзя.

### "Ты яшчэ і лечышся ў дадатак"

Арыгамі, сцвярджае Сяргей, заспакойвае нервы, развівае маторыку рук. Тут кончыкамі пальцаў усё робіцца.

– Дактары казалі: "Ты яшчэ і лечышся ў дадатак", – усміхаецца. – Ну, магчыма.

Купляюць лебедзяў адпачывальнікі, пераважна расіяне.

– Такіх сувеніраў у краме не знойдзеш, – давodзіць Сяргей.

Разыходзяцца яны на кірмашах у курортным пасёлку, у здраўніцах на масавых мерапрыемствах:

– Я ж не проста прадаю. Сяджу і як майстар-клас паказваю. Многія спыняюцца.

Па суботах Сяргей праводзіць майстар-клас у санаторыі "Прыазёрны". Ахвотныя вучацца, і да канца адпачынку атрымліваюцца ў іх вазы ды лебедзі.

### Лебедзі "паплылі" па вяселлях

Сувенірамі ад Сяргей Чапурко зацікавіўся таксама мясцовыя людзі. Знайшлі ім прымяненне на вяселлях. Пры віншаванні маладых лебедзя выстаўляюць на стол. І туды ўжо грошы кладуць, а не ў канвертах дораць.

Так што, лебедзь атрымліваецца з валютай. Большае вяселле – і папяровы прыгажун больш патрабуецца.

### Самы сувенір на "Лебядзінае возера"

Аднойчы лебедзі майстра прадаваліся ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета ў Мінску. Ехалі неяк калектывам "Лебядзінае возера" глядзець, і надумаўся ён сваіх лебедзяў туды завезці.

– Мо, пятнаццаць з сабой узяў – усе хуценька "ўляцелі", – кажа Сяргей.

Па яго словах, лебедзі доўга стаяць – толькі фенам трэба прадзімаць ад пылу. А некаторыя фарбу з балончыкаў наносяць. Тады лебедзь як каменны становіцца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СВЯТЫ

## Адкрылі маёнтак Агінскіх у Залессі

**СМАРГОНЬ. Усе 400 месцаў для гасцей былі занятыя. Ахвотныя паўдзельнічаць прыехалі з Гродна і нават з Літвы.**

Спадзяванні на добрае надвор'е ў гэты дзень, 25 верасня, можна лічыць апраўданымі. Падчас канцэрта аркестра Фінберга на вуліцы госці хоць і трэсліся ад холаду, затое не мoклі.

– Традыцыя не парушылася: на дзень нараджэння Агінскага зноў сонца, – задаволеная **Таццяна Ражава**, намесніца загадчыка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама.

Усе мерапрыемствы, запланаваныя на гэты дзень, адбыліся. Выстава "Паланэзы на вяртанне" працавала.

Калі ж вы прапусцілі адкрыццё, але хочаце наведаць маёнтак, то можаце патрапіць на экскурсіі, якія праходзяць двойчы на дзень: у 11 і 15 гадзін. Выхадныя – панядзелак і аўторак.

Пераначаваць у маёнтку, у якім жыў Міхал Клеафас Агінскі, можна будзе пазней. 9 аднапакаёвых нумароў запрацуюць, калі падрадчык канчаткова здасць маёнтак. Дату пакуль не называюць. Але абяцаюць, што чакаць застаецца не больш за паўгода.

Рэканструкцыя маёнтка Агінскіх доўжылася амаль тры гады.

**Настасся РОЎДА.**

БІБЛІЯТЭКА

## Літаратуру выдаюць чатыры дні

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 29 верасня пункт выдачы літаратуры абанемента цэнтральнай раённай бібліятэкі будзе працаваць у панядзелак-чацвер ад 10 да 18 гадзін.**

Пункт выдачы месціцца ў фае касаў Палаца культуры.

Абанемент і зала замежнай літаратуры часова знаходзяцца ў бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок" па адрасе: Вялікі Гасцінец, 121. Зала мастацтваў – у філіяле №1 па вуліцы Будаўнікоў, 24.

Раней пункт выдачы працаваў два дні на тыдзень.

Пра гэта "РГ" паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**

Будынак цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча зачынены на рамонт пасля таго, як у ім у маі абрынулася столь.

**Аддзел інфармацыі.**

КІНО

## Ільянскія пейзажы і Першая сусветная. У Вілейцы ацэньвалі краязнаўчыя фільмы

**ВІЛЕЙКА. Рэгіянальнае свята-конкурс краязнаўчага фільма "Гэта мой край" адбылося ў вілейскім кінатэатры "Мір" 27 верасня. Гэта быў трэці падобны конкурс. Праходзіць ён раз на два гады.**

Сёлета свята прымеркавалі да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад фашыстаў і 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны.

У кінатэатры гледачы маглі пабачыць розныя выставы. Напрыклад, з дапамогай фотаздымкаў зрабіць "Праменад па вуліцах Вілейкі".

Шмат што ў суботу нагадвала пра адну з галоўных тэм конкурсу – Першую сусветную. Ёй прысвяцілі і фотавыставу, і літаратурна-музычную кампазіцыю "Лісткі паходнага сшытка". Выступіў з ёй народны калектыў аўтарскай песні "Элегія".

Потым прайшоў конкурсны прагляд фільмаў. На яго паступілі фільмы з Вілейшчыны, Барысава, Талачына, расказала метадыст Вілейскага раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці **Тамара Тышкоўская.**

Старшынёй журы стаў генеральны дырэктар Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" **Алег Сільвановіч.**

**У выніку Гран-пры не прысудзілі нікому. Першае месца заняў фільм Дзмітрыя Іўчанкі з Талачына "Якія маладыя мы былі".**

Аўтар доўгі час захапляецца турызмам, фота і відэаздымкамі. Працуе электрамеханікам на чыгунцы.

Другое месца падзялілі два фільмы. Гэта праца работнікаў Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаця "Ільянскі пейзаж: мясціны майго дзяцінства" і фільм бібліятэкара раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік **Аксаны Дубягі** "Вілейскі раён у гады Першай сусветнай вайны". Апошні таксама адзначылі ў намінацыі "За адлюстраванне гістарычнай спадчыны Першай сусветнай вайны".

У падобнай намінацыі, толькі пра Вялікую Айчынную вайну, узнагародзілі стужку творчай групы барысаўскай тэлепраграмы "Свет ТВ".

Трэцяе месца не прысуджалі. Самага юнага ўдзельніка – васьмікласніка СШ №3 Вілейкі **Мікалая Томкавіча** – адзначылі за дэбют.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.




Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591, |
| Ашмяны | - 01593, |
| Валожын | - 01772, |
| Вілейка | - 01771, |
| Маладзечна | - 0176, |
| Мядзел | - 01797, |
| Смаргонь | - 01592. |

**Размясці сваю аб'яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце** Rh.by

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80 В4, 1994 г.в., 2,0 бензін, мона, светла-зялёны металік, кошт 5300 у.а. Вілейка. Т. (8-029) 5614237.

• Аўдзі-100, бензін, ад 1800 у.а. Маладзечна. Т.(8-029) 5615614.

• БМВ-324Д, 1986 г.в., 1900 у.а., торг. Астравец. Т, Вэлком (8-044) 4916234, МТС (8-033) 6885974.

• ВАЗ-2106, 2001 г.в., чырвоны, 1600 у.а., торг. Т. (8-029) 1157938.

• ВАЗ-2109, 1993 г.в., 1,3 бензін, колер бардовы,1500 у.а., торг. Т.(8-01771) 44202, (8-029) 8474826.*

• ГАЗ-66, дызель, Вілейка, 1700 у.а.. Т. (8-029) 6028263.

• Гольф-2, 1991 г.в., 1,3; інжэктар, у добрым тэхнічным стане. Тэрмінова! Т. (8-029)1014524.*

• Лянча-Інсілан, 1997 г.в., аварыйны, на ходу, 1850 у.а. Т.(8-044) 7601222.

• Мазда-3, 2008 г.в., 1,6 бензін, сіне-зялёны, хэтчбэк. Т. (8-029) 1702313.*

• Міцубісі-Спэйс-Вэган, мінівэн, 1998 г.в., 2,0 ТД, бардовы металік, нюансы па кузаве, без перадпродажнай падрыхтоўкі, 5400 у.а., торг. Т.(8-029) 5600458.

• Нісан-Альмера-Ціна 2001 г.в. 2,2 д.Т. (8-029) 1107958,*

• Опель- Зафіра, 1999 г.в., 1,8, бензін. Т. МТС (8-033) 3528249.

• Опель-Астра, 1,7 ТДІ, 1997 г.в., белы, універсал, 2850 у.а., торг. Т. МТС (8-029) 8789242, Вэлком (8-044) 7227875.

• Опель-Вектра, 1996 г.в., 1,6, бензін, 294 тыс.км, кандыцыянер, ц/з, г/у, выдатны стан, 5290 у.а., торг, сігнал. Т. Вэлком (8-029) 1678365.

• Опель-Астра 6, 1999 г.в., 2,2 т.д., 290 тыс. км, зялёны ўнівер, л/д, ц/з, эл/с, эл/з, фаркоп, кандыцыянер. Тэлефанаваць у любы час.Т. МТС (8-029) 7763411.

• Опель-Вектра, 1,8 бензін, 1998 г.в., зялёны седан. Т. (8-029) 3262613.



• Опель-Вектра, 1996 г.в., чорны, хэтчбэк, 1,6 Б, мона, 8-клапанны. Нефарбаваны, не біты, кошт 4800 у.а. Т. моб. Вэлком (8-029) 6900531.*

• Опель-Корса, 1993 г.в., 1,5Д, бардовы, 5 дзвярэй, 2600 у.а., торг, тэрмінова. Т. Вэлком (8-029) 9563951, (8-029) 9563952.

• Пасат-В3, 1990 г.в., 1,8 бензін. Т.(8-029) 8777677.

• Пежо-306, 2001 г.в., 1,9, дызель, чорны, універсал. Т. (8-029) 7603076.

• Пежо-Партнёр, 2005 г.в., 1,9 Д, белы, ёсць невялікія ўмяціны, 5050 у.а., 191 тыс.км. Т. Вэлком (8-029) 1416229, МТС (8-029) 8722166.

• Пежо-206, 2001 г.в., 1,1 бензін, цёмна-сіні , хэтчбэк, 5200 у.а. Т. (8-029) 1210687, (8-033) 3422838.

• Пежо-306, 1999 г.в., 1,9 дызель, хэтчбэк, 5-дзверны, 4350 у.а. Т.(8-025) 6378650.

• Пежо-605, 2,1 ТД, АКПП. Т.(8-029) 9176755.

• Рэно-Лагуна, 1999 г.в., 1,8 бензін, 5800 у.а., тор. Вілейка. Т. МТС (8-029) 7096930.

• Рэно-Меган, 1,5 дызель, 2004 г.в., універсал, 110 л/с. Т. (8-029) 8791208.

• Рэно-Меган-Сцэнік, 1997 г.в., 1,6і, 4700 у.а., Вілейка. Т. МТС (8-029) 2716675.

• Рэно-Меган-Сцэнік, 1998 г.в., 1,9 дызель, добры стан, без праблем. Т.(8-029) 3205388.

• Рэно-Сцэнік, 1998 г.в., 1,9 ДТ, 5400 у.а., торг. Т.(8-029) 8706826.*

• Рэно-21 Сімфонія, бензін, выдатны стан, 1600 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Сітраэн-С5, 2005 г.в., 1,6 НДІ, белы, хэтчбэк, 9300 у.а., торг. Т.МТС (8-029) 7041136.*

• Сцэнік-2, 2005 г.в., 1,9 дсі, 7990 у.а.. Т. (8-029) 6370991.

• Таўрыя, 1995 г.в. Т. (8-029) 5197823.

• УАЗ, бартавы. Астравец. Т. (8-01591) 38525.

• УАЗ-3151, 1992 г.в., добры стан, ваенныя масты. Т. (8-029) 2694914.*

• ФВ-Транспацёр Т-5, 1,9 Д, 2006 г.в., 200 т.км, пасажыр. 8+1. Т. МТС (8-029) 7663025.*

• ФВ-Вента, 1996 г.в. 1,9 дызель, эл. люк, дыскі, АВС, ц/з. Т. (8-029) 5716871, (8-0176) 500351.*

• ФВ-Гольф 2, 1986 г.в., серабро, металік, 1,6 Д, нядорага. Т. Вэлком (8-029) 96282510.*

• ФВ-Джэта, 1990 г.в., 2000 у.а.; ФВ-Пасат V3, 1989 г.в., 1,8 мона, 2400 у.а. Т. Вэлком (8-029) 9394324.

• ФВ-Пола, 1999 г.в., 1,6 б, седан. Т. (8-029) 8540938.*

• ФВ-Пола, 2003 г.в., 1,2 бензін, чорны, 5 дзвярэй. Т. (8-029) 3020248.

• ФВ-Пола, 2008 г.в., аб'ём 1,4, дызель, 9500 у.а.Т. (8-029) 9490485.

• ФВ-Транспарцёр Т-4, белы, доўгая база, 2400 куб. см, 449000 км, 7 месцаў, ц.з., сігналізацыя, шторкі, стэрэа сістэма + сабвуфер. Т. (8-029) 6650692.*

• ФВ-Пола, 2001 г.в., 1,4 бензін, чорны, 6500 у.а. Мядзел. Т. (8-029) 9342180.

• Форд-Сіера-Люкс, бензін, 1600 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Фіят-Дуката, 1991 г.в., 1,9 ТД, нядорага, магчыма на запчасткі. Т. (8-044) 4669653.

• Фіят-Марыа, 1999 г.в., 1,6 бензін. Добры стан. Колер шэры металік, 3900 у.а. Т. Вэлком (8-029) 9293068.

• Фіят-Сціла, 2002 г.в.,1,9 gtd, цана 5250 у.а. Т.(8-029) 6058365.

• Форд-Гэлаксі, 2004 г.в., 1,9 ТДІ, 130 к.с, 217000 км, 6МКПП, серабрысты металік, ацяплялньік салона, абагрэў лабавога шкла, ц.з., сігналізацыя, поўны электрычны пакет, клімат кантроль, заводская таніроўка, паўскураны салон, літыя дыскі. Т. (8-029) 1767247.*

• Форд-Мандэа, 1998 г.в., універсал, 2,0 бензін, 130 к.с., зялёны, добры стан, 3950 у.а. Т.(8-029) 255 .*

• Форд-Транзіт, 2001 г.в., аб'ём 2,4 ТД, грузавы. Т. (8-029) 6181186.*

• Форд-Транзіт, мікрааўтобус, грузавы, 1994 г.в., 3000 у.а., торг. Т. (8-029) 2102621.*

• Форд-Фіеста, 1992 г.в., 1,3 бензін, 3-дзверны, чырвоны, пераварaны, пафарбаваны, капрамонт рухавіка, без праблем, 1550 у.а., торг, Вілейка.*

• Хундай-Туксан, 2005 г.в., 2,0 CRDI, выдатны стан, усё ёсць. Т.(8-029) 7670805.*

• Хундай-Акцэнт, зялёны металік, 1998 г.в., 1,3 бензін, 2500 у.а., торг. Маладзечна. Т.(8-029) 5093936.

• Хундай-Санта-фэ, 2001 г.в., залацісты металік, газ-бензін, добры стан, 9400 у.а. Т.(8-029) 3462735.

• Хундай-Акцэнт, 1999 г.в. 1,5 газ-бензін, падагрэў пярэдніх сядзенняў, ц/замок, цёмна-сіні, хэтчбэк, ці абмен. Т. (8-029) 8555279.*

• Шаўрале-Авеа, 2010 г.в., 1,2 газ-бензін, 3-дзверны, хэтчбэк, шэры, свежапрыгнаны з Францыі 21 верасня, сэрвісны, 8300 у.а., торг. Тэл. (8-029) 6631595.*

• Матацыкл "Мінск" на ходу з дакументамі + матацыкл на запчасткі, 300 у.а. Т.(8-029) 7617385.

• Матацыкл "Мінск-125", 1998 г.в., 250 у.а., Вілейка. Т. (8-029) 2716675.

• Скутар HORS054. Т. МТС (8-029) 7724958.*

• Гума зімовая ў камплекце з дыскамі ад Мерседэс на 15. Т. (8-029) 9573379.

• Дыскі R15 да Опеля. Т. МТС (8-029) 5505781.

• Запчасткі б/у для Аўдзі В3. Т. (8-029) 5686869.*

• Запчасткі б/у для Мазды, Аўдзі, ФВ у г.Барысаве, дастаўка ў Маладзечна. ІП Вашкевіч С.М., УНП 691492337. Т. Вэлком (8-029) 6690074, МТС (8-029) 8890074.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Гольф 3. Т. (8-029) 6154346.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Пасат В3. Т. (8-029) 8777677.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Магнета, карбюратар да рухавіка УД-15, УД-25. Колы 7.00х12, 5.00х12. Т. МТС (8-029) 2712477, Вэлком (8-029) 3136538.

## КУПЛЮ

• **А/М, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• **АЎТО, МОЖНА З ПРАБЛЕМАМІ. Т. (8-029) 7649185, (8-029) 9496581.***

• **АЎТО, ХУТКА, ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7652832, (8-029) 9496492.***

• **А/М** у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, трактар, пагрузчык. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўтамабіль у любым стане, легкавы ці бус. Т. (8-033) 6008152.*

• Аўто 1984-2005 г.в. у любым тэхнічным стане, аварыйнае ці на запчасткі. Т. (8-029) 2635648.*

• Аўто, дорага. Т. (8-025) 9378887,*

• Іншамарку за 3000 у.а. Т. (8-029) 3856049.*

• Любое аўто, любой маркі і мадэлі, любога года выпуску, з любымі праблемамі, можна на запчасткі. Т. (8-044) 4625799, (8-033) 3825092.*

## ІНШАЕ

• **АЎТАРАЗБОРКА НЯМЕЦКІХ І ФРАНЦУЗКІХ** аўто. Вялікі выбар. Гарантыя, на запчасткі. г.Ліда. Дастаўка ў Маладзечна. ІП Малец П.Н. УНП 591319307. Т. (8-029) 9289224, (8-029) 7417597, (8-033) 3761764.*

• АЎТАРАЗБОРКА: РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭН. ВЯЛІКІ ВЫБАР Б/У ЗАПЧАСТАК, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ, **МАЛАДЗЕЧНА, ВУЛ.МАЛАДЗЁЖНАЯ, 10. ІП ЕЎДАКІМЕНКА Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044)**

## ПАСЛУГІ

• Арэнда самазвалаў МАЗ, 20 тон і 10 тон (дастаўка пяску, шчэбеню, асфальту, вываз смецця), франтальнага пагрузчыка ТА-18, поўнапаваротнага экскаватара, (0,85 куб. м), экскаватара-пагрузчыка, гусенічнага экскаватара, увесь комплекс земляных работ. ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі міні-экскаватара, міні-пагрузчыка, колавага экскаватара, трамбовачнікі, усе віды земляных работ. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• **ЭКСКАВАТАР-ПАГРУЗЧЫК, ТРАНШЭІ, КАТЛАВАНЫ, ПЛАНІРОЎКА, ПАГРУЗКА.** ІП Грычанаў Д.Г. Т. (8-029) 5045554*



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

КРАЯЗНАЎСТВА

# Вялікая Мыса, што бярэ пачатак ад Вітаўта

**СМАРГОНЬ. Адным са старажытных паселішчаў смаргонскага краю з'яўляецца мясціна з красамоўнай назвай Вялікая Мыса.**

І хоць першую частку назвы сталі ўжываць толькі з пазамінулага стагоддзя, аднак па сваёй багатай і ўнікальнай гісторыі Мысу па праве можна назваць Вялікай.

Пра лёс мясціны, якая існуе больш за пяць стагоддзяў, распавядае пастаянны аўтар спецпраекта “РГ” “Куфэрак”.


Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Палац у Мысе, 1915 год.

## У дубовай скрыні ў мураваным склепе

У 1414 годзе вялікі князь Вітаўт сваім прывілеем пацвердзіў “Зяновію Братошычу спадчынныя маёнткі: Мысу, Чардлёну, Вішнева на возеры Спягла, Чачэлічы з людзьмі на возеры Нарач, у павеце Мядзельскім і Маркаўскім”. Дароўная грамата ў арыгінале да нашых дзён не дайшла, але мы маем яе спісы і сведчанні пра яе існаванне з пачатку 17 стагоддзя.

У гэтым прывілеі таксама паведамлялася, што ўсе пералічаныя там маёнткі раней дараваў Ягайла бацьку Зяновіча, а цяпер толькі пацвярджалі сыну права на іх. Брэсцкі ваявода Кшыштаф Зяновіч у сваім духоўным тэстаменце ад 1611 года наказвае дзецям берагчы гэты дакумент, які знаходзіўся “ў дубовай скрыні ў мураваным склепе” ў Смаргоні, галоўным маёнтку Зяновічаў.

## Частку ракі Оксна называлі Мыса

Пазнейшыя даследчыкі адзначалі, што займалі спадчынныя маёнткі вялікую прастору паміж рэкамі Прыпяць, Дзісна і Мыса. Трэба адразу ўдакладніць месцазнаходжанне апошняга гідроніма, бо ён з'яўляецца яшчэ адным сведчаннем таго, што гаворка ідзе пра нашу старонку.

На тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага існуе некалькі рэк з назвай Мыса ці Муша, але яны адносяцца да глыбінкі суседняй сучаснай Літоўскай дзяржавы. У той жа час добра вядомая сёння ўсім нам рака Оксна ад сваіх вытокаў і да сярэдняй часткі цячэння захоўвала першапачатковую назву Мыса ажно да пачатку 20 стагоддзя. Гэта пацвярджаюць не менш як чатыры розныя тапаграфічныя карты мінулых стагоддзяў. На адной з іх нават пазначана, што каля вёскі Каравай рака мае назву “р. Мыса”, а ад вёскі Васілевічы нанесена назва “р.Оксна”.

Таксама ў спісе населеных месцаў Віленшчыны ад 1905 года адзначана, што на рацэ Мысе ляжалі смаргонскія паселішчы Мыса, Каравай, Галяшонкі і Васілевічы, а млын Малая Мыса ўжо знаходзіўся на рацэ Оксна.



Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Вялікая Мыса на фрагменце карты 1940 года.

## Мыза – асобны маёнтак з гаспадаркай

Патрабуе расшыфроўкі сам тапонім Мыса. У сярэднявечнай Прыбалтыцы і зрэдку на нашых землях “мызамі” называлі асобна стаячыя маёнткі з гаспадаркай. У нашым выпадку Мыза з'яўлялася адміністрацыйна-тэрытарыяльнай часткай галоўнай сядзібы Зяновічаў у Смаргоні.

Магчыма, пра гэта сведчыць і той факт, што да Другой сусветнай вайны маёнтак Вялікая Мыса быў ізаляваны ад аднайменнай вёскі і іншых суседніх паселішчаў. А гарадзішча, якое ўзвышаецца паблізу маёнтка, распавядае не толькі пра старадаўні і далетапісны час мясціны. Яно вызначае цэнтральны пункт усяго наваколля.

## Гаспадары з татарскага роду

Зяновічы становяцца першымі вядомымі гаспадарамі гэтага маляўнічага кутка Смаргоншчыны. На змену ім у канцы 16 ці пачатку 17 стагоддзя сюды прыходзяць прадстаўнікі татарскага роду Базарэвічаў. У гэты час вакол Крэва закладаюцца моцныя татарскія асады, уласнікі якіх павінны былі абараняць муры Крэўскага замка пры ваенных нападах. Уладанне Мыса ўваходзіць у гэты створаны ахоўны пас вакол стратэгічна важнага месца ВКЛ.

Продкам князёў Базарэвічаў стаў у канцы 16 стагоддзя нейкі Базар Мартузіч. Сынам гэтага Базара быў Ях'я, уласнік Оскаў і часткі Мысы ў Ашмянскім павеце. У рэвізіі татарскіх уладанняў з 1631 года яго сыны запісаныя як агульныя ўладальнікі пералічаных паселішчаў. Базарэвічы абавязаныя былі несці вайсковую службу ў харунжастве Кандрацкай харугвы і выстаўляць трох коней. Адзін з князёў у 1658 годзе фігуруе ў каронных вайсковых спісах.

Прадстаўнікі гэтага роду яшчэ ў 1690 годзе пазначаныя ў падымным рэестры Віленскага ваяводства. Ім належала ў крэўскай парафіі Мыса “Алешкаўшчына”. Варта адзначыць і той факт, што суседнімі маёнткамі валодаюць прадстаўнікі іншых татарскіх родаў.

У Міхнічах гаспадарыць князь Давід Булгак, а ў Мысакоўшчыне шчыруюць татары Курмановічы. На старонках падымнага рэестра таксама зафіксаваны уласнік Мігуляў пан Ходзька, які праз некаторы час стане наступным уладальнікам Мысы.

З тых далёкіх часоў ад былых татарскіх гаспадароў захавалася да нашых дзён толькі тапанімічная назва Базары, як адна з частак вялікага маёнтка Базарэўскіх.

**Уладзімір ПРЫХАЧ, Смаргонь.**

**У наступным нумары чытайце пра новых гаспадароў Вялікай Мысы з роду Ходзькаў.**

КАЛЯНДАР

**4 кастрычніка.** 270 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Францішка Карповіча (1744 – 1803), палітычнага і царкоўнага дзеяча, багаслова-асветніка. Ён адзін з першых на Беларусі і ў Літве распачаў крытыку прыгону і жорсткага абыходжання паноў з сялянамі.

***

**1976 год.** Памёр Юльян Сергіевіч, беларускі паэт, настаўнік, самадзейны мастак. Пахаваны ў вёсцы Ленкаўшчына Маладзечанскага раёна. Вобраз Юльяна Сергіевіча стаў прататыпам аднаго з герояў рамана Янкі Брыля “Птушкі і гнёзды”, таксама вобраз яго як настаўніка створаны ў кнізе польскага празаіка Збігнева Жакевіча “Воўчыя лугі”.

***

**85 гадоў** таму (1929) памёр Пятро Сяўрук, пісьменнік, актывіст Таварыства беларускай школы і Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады. Пахаваны на радзіме ў Скідзелі (Гродзенскі р-н). Нарадзіўся ў 1905 годзе.

***

**5 кастрычніка.** 1872 год. У вёсцы Малі (цяпер Астравецкі р-н) памёр Іосіф Гашкевіч, дыпламат, мовазнаўца, даследчык Японіі і Кітая, натураліст. Пахаваны ў Астраўцы, дзе ўстаноўлены яму бюст. У Вільні пахаваны яго сын, Іосіф Іосіфавіч.

***

**6 кастрычніка.** 1762 год. Мястэчка Мядзел атрымала самакіраванне паводле магдэбургскага права.

***

**1876 год.** Нарадзіўся Ян Булгак , беларускі і польскі майстар мастацкай краязнаўчай фатаграфіі, “бацька польскай фатаграфіі”, адзін з піянераў польскай мастацкай фатаграфіі, этнограф, фалькларыст.

***

**20 гадоў** з часу прыняцця (1994) Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь Закона Рэспублікі Беларусь “Аб Нацыянальным архіўным фондзе і архівах у Рэспубліцы Беларусь”.

***

**7 кастрычніка.** Нарадзіўся Міхал Клеафас Агінскі, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, удзельнік паўстання 1794 года.

***

**8 кастрычніка.** 1943 год. У савецкім канцлагеры памёр Андрэй Мрый (сапр. Шашалевіч), пісьменнік, журналіст. Нарадзіўся ў 1893 годзе. У 1929 годзе напісаў сатырычны раман “Запіскі Самсона Самасуя”.

***

**9 кастрычніка.** 1920 год. Генерал Люцыян Жалігоўскі заняў Вільню, пасля чаго была абвешчана г. зв. Сярэдняя Літва.

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Навялі парадак на магіле контр-адмірала

**МАЛАДЗЕЧНА. Па просьбе дабрачыннага фонду “Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага” выратавальнікі прыбралі магілкі Канаржэўскіх у Палачанах. Шыльду з адпаведнай адзнакай усталявалі 29 верасня.**

Добраахвотнікі пафарбавалі агароджу, падсыпалі пяском. Як адзначыў намеснік начальніка пажарна-аварыйнага выратавальнага атрада Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Сяргей Яўсеенка**, гэту працу яны лічаць за гонар.

Браты Канаржэўскія, чыё імя носіць адна з вуліц Маладзечна, сталі прыкладам для байцоў. Іх ваенная кар’ера – гэта ўзор мужнасці і адвагі, лічыць выратавальнік.

Браты **Станіслаў** і **Ян Канаржэўскія** нарадзіліся ў сям’і шляхецкага роду ў пачатку 1830-х.

Закончыўшы Марскі кадэцкі корпус, пачалі службу. Іван пераважна служыў на Балтыцы, Станіслаў – на Чорным моры.

Як адзначае ў сваім артыкуле пра іх **Анатоль Рогач**, Станіслаў падчас Крымскай вайны ўдзельнічаў у апошняй вялікай бітве эпохі паруснага флоту – Сінопскай, пад кіраваннем адмірала **Паўла Нахімава**.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Выратавальнікі прымацоўваюць шыльду да агароджы магіл. На шыльдзе напісана: “Месца пахавання сям’і Канаржэўскіх. Аднаўлена дабрачынным фондам “Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага” пры садзеянні пажарна-аварыйнага выратавальнага атрада Мінскага абласнога ўпраўлення МНС”.**

Станіслаў атрымаў некалькі раненняў, пасля служыў на Балтыцы, здзейсніў кругасветнае плаванне. Званне контр-адмірала ён атрымаў са звальненнем са службы з мундзірам і пенсіяй. На пенсіі ён жыў у Санкт-Пецярбургу, дзе і пахаваны.

Іван вярнуўся на Радзіму, дзе працягнуў род.

Іх біяграфіямі займаліся краязнаўцы **Генадзь Каханоўскі** і **Вячаслаў Ляшковіч**.

**Успаміны пра братоў Канаржэўскіх, падрыхтаваныя Вячаславам Ляшковічам, рыхтуе да друку маладзечанка Ларыса Сысун.**

На могілках у Палачанах пахаваны чацвёра Канаржэўскіх: контр-адмірал Ян Канаржэўскі, яго жонка **Багуміла** і двое іх сыноў, **Ян** і **Аляксандр**. Абодва сыны таксама сталі маракамі і абодва пайшлі з жыцця ў 35 год праз хваробу.

Сярод беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі званне адмірала носяць больш за 70 чалавек. Такую лічбу дае **Барыс Даўгатовіч**, падпалкоўнік у адстаўцы, кандыдат гістарычных навук у сваім артыкуле “І на Мінскім моры нараджаюцца адміралы”.

Зоя ХРУЦКАЯ.

ПАМЯЦЬ

# Анатоля Рогача ўшанавалі памятнай дошкай

**ВІЛЕЙКА. 30 верасня, у аўторак, адкрылі памятную дошку краязнаўцу Анатолю Рогачу на будынку электрычных сетак. Там ён працаваў больш за 40 год.**

Анатоля Рогача ўспаміналі як краязнаўцу, дэпутата раённага савета, інжынера-энергетыка. Таксама ўзгадвалі яго як даследчыка жыцця і творчасці **Адама Гурыновіча**, **Ігната Ходзькі**. Адзначалі, што ён першым звярнуў увагу на біяграфію **Піліпа Орліка**, ураджэнца вёскі Касута, аўтара першай украінскай канстытуцыі.

## Рогача памятаюць за працавітасць

Аўтар мемарыяльнай дошкі **Анатоль Капцюг** падчас прамовы на адкрыцці падзяліўся пачуццямі:

– Лепш бы не было гэтай дошкі, а быў жывы Анатоль Валянцінавіч!

Вызначальнай якасцю вілейскага краязнаўцы ён назваў нястомную працавітасць.

– Напэўна, гэта і згубіла Анатоля Рогача. Ён перапрацаваўся, – мяркуе Анатоль Капцюг.

Аўтар мемарыяльнай дошкі адзначае, што ўнук Анатоля Валянцінавіча таксама цікавіцца краязнаўствам. Таму, магчыма, працягне справу свайго дзеда.

На адкрыцці памятнай дошкі выступоўцы падкрэслівалі, што Вілейшчына багатая на тых, хто хваліцца пра спадчыну. Гэтых руплівцаў варта ўшаноўваць, каб памяталі і іх справу, і іх саміх.

Галіна СІНІЦА.




Фота Галіны СІНІЦЫ.

**30 верасня адкрылі мемарыяльную дошку краязнаўцу Анатолю Рогачу на будынку Вілейскіх электрасетак.**

# Чыгунка – зона павышанай небяспекі

**Чыгуначныя пуці з’яўляюцца небяспечнай зонай з-за пагрозы наезду рухомага саставу на людзей. Знаходзячыся на пуцях, неабходна быць асабліва ўважлівым і захоўваць усе патрабаванні бяспекі, бо парушэнні іх могуць прывесці да цяжкіх наступстваў.**

Тэмп жыцця высокі. Людзі ўвесь час некуды спяшаюцца. Замест таго, каб падняцца на пераходны мост ці прайсці праз пуці ва ўстаноўленых месцах, лезуць пад колы вагонаў. Яны ходзяць па рэйкавай каляіне, выскокваюць на хаду з вагонаў. Часта гэта, на жаль, заканчваецца трагічна. Пад коламі цягнікоў гіне і траўмуецца людзей у шмат разоў больш, чым у крушэннях ці аварыях.

На бяспеку людзей на транспарце, на барацьбу з невытворчым траўматызмам затрачваюцца вялікія сродкі. Прымаюцца эфектыўныя меры для таго, каб цалкам пазбавіцца ад няшчасных выпадкаў на чыгунцы ці звесці іх да мінімуму. У гэтых мэтах шырока ўкараняюцца аўтаматыка, тэлемеханіка, электроніка, самыя новыя сродкі сувязі. На станцыях і раз’ездах усё больш будуецца зручных для карыстання пасадачных платформаў, узводзяцца пуцеправоды, пешаходныя масты і тунэлі, узмацняецца асвятленне.

Чыгуначнікі разам з тэрытарыяльнымі органамі ўлады вядуць растлумачальную работу сярод насельніцтва, выдаюцца памяткі, з’яўляецца большая колькасць указальнікаў і плакатаў. Прадугледжваюцца і штрафныя санкцыі да парушальнікаў, калі іх учынкі не цягнуць судовай адказнасці.

Сярод бацькоў і ў школах неабходна таксама весці растлумачальную работу. Дзеці часта не ўсведамляюць ступень небяспекі. На жаль, дарослыя і самі нярэдка становяцца ахвярамі паспешнасці і няўважлівасці.

У барацьбе з невытворчым траўматызмам трэба выкарыстоўваць усе магчымыя формы і сродкі. **Трэба ўнушыць чалавеку, што хадзіць па пуцях крайне небяспечна. Нельга гуляць з жыццём, нават калі і вельмі спяшаешся! Хаджэнне па пуцях – прамая пагроза бяспекі руху цягнікоў.**

Уяўляеце, як адчувае сябе лакаматыўная брыгада, калі наперадзе на пуцях староннія людзі? Кожны чалавек, нават той, хто незнаёмы з механікай, добра ведае, як цяжка спыніць цяжкі прадмет, калі ён рухаецца па інерцыі. А якая вялізная сіла патрэбная, каб спыніць грузавы ці пасажырскі цягнік, калі ён ідзе на вялікай хуткасці! Састаў грузавога цягніка вагой 3-7 тысяч тон, напрыклад, рухаецца з хуткасцю 70-80 кіламетраў у гадзіну. Тармазны шлях можа мець розную даўжыню. У грузавога – 800-1200 метраў, а ў экспрэса пры хуткасці 140-160 км/гадз. – паўтара кіламетра і больш.

На шляху цягніка сустракаецца густы лес, праходзіць ён і крывыя ўчасткі пуці. Нярэдка машыніст бачыць каляіну на 200-300 метраў.

Няшчасныя выпадкі адбываюцца і з пасажырамі, якія спрабуюць на хаду ўскочыць у вагон ці выскачыць з яго. Нярэдка пасажыры саскокваюць з пасажырскіх платформаў на рэйкавыя пуці і трапляюць пад цягнік.

**ЯШЧЭ ПРА НЕБЯСПЕКУ**

Правілы паводзін ў цягніку забараняюць выкідваць з вагонаў смецце ці якія-небудзь прадметы. І не толькі таму, што гэтым забруджваюць пуці. Выкінутыя ў акно ці дзверы вагона бутэлькі, бляшанкі і іншыя, нават не цяжкія, прадметы, уяўляюць вялікую небяспеку для людзей, якія знаходзяцца каля цягніка.

Нярэдка людзі, пераважна моладзь, бачаць задавальненне ў тым, каб кідаць што-небудзь у бок ідучага цягніка. Церпяць ад гэтага пасажыры ці лакаматыўная брыгада. Таму, калі вы аказаліся каля пуці, лепш загадзя адысці далей.

Самым моцным і надзейным абярэгам ад няшчасных выпадкаў павінна стаць, перш за ўсё, наша свядомасць і разуменне, што не бывае нічога горшага, калі з жыцця сыходзіць чалавек па глупстве.

Чыгунка – не месца для прагулак і дзіцячых забаў. Здавалася б, усім гэта вядома. Але ж для некаторых людзей гэта не стала правілам, каб захаваць здароўе і жыццё. Штогод на чыгунцы нашай краіны гінуць і атрымоўваюць калецтвы людзі.

Няшчасныя выпадкі наносяць вялізныя страты. Тут і прамыя страты ад разбурэння транспартных сродкаў, псавання грузаў і чыгуначных збудаванняў. Але галоўныя страты – гэта чалавечыя ахвяры.

Аналіз няшчасных выпадкаў, не звязаных з вытворчасцю, на тэрыторыі Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі за 2014 год паказаў, што ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць няшчасных выпадкаў застаецца яшчэ высокай. Гэта выклікае сур’ёзную трывогу.

Сёлета за восем месяцаў адбылося 60 выпадкаў траўмавання людзей (летась былі 62). Пацярпеў 61 чалавек (63 летась). З іх смяротна траўмавана 39 чалавек, летась – 43. Траўмаваная адна непаўналетняя (летась былі тры выпадкі).

У межах Маладзечанскай дыстанцыі пуці ў гэтым годзе смяротна траўміраваныя 4 чалавекі ( у 2013 годзе – 5).

На жаль, шмат хто з пешаходаў ігнаруе папераджальныя сігналы на станцыях і пераездах, праяўляе бяспечнасць, стараецца скараціць шлях і пераходзіць рэйкі ў любым, не ўстаноўленым для гэтага месцы. І расплачваецца за сваю недысцыплінаванасць ўласным здароўем і жыццём.

**Каб не стаць ахвярай няшчаснага выпадку, кожны чалавек павінны ведаць і захоўваць наступныя ПРАВІЛЫ БЯСПЕКІ на чыгуначным транспарце:**

1. Пераходзьце пуці па пешаходных мастках, насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўсталяваныя ўказальнікі “Пераход праз пуці”.
2. Перад пераходам пуці па пешаходным насціле спярша пераканайцеся ў адсутнасці цягніка, лакаматыва.
3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва спыніцеся, прапусціце іх і, толькі пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, пераходзьце.
4. Калі падыходзіце да чыгуначнага пераезда, то ўважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй. Перш чым перайсці пуці, пераканайцеся, ці не набліжаецца да пераезду цягнік ці лакаматыў.
5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце з вагонаў толькі пасля поўнага спынення цягніка з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.
2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад ідучым транспартам, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
3.Пераходзіць ці перабягаць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго напрамку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка сустрэчнага напрамку.
4. Падлазіць пад вагоны і пераходзіць па счэпных прыборах вагонаў.
5. На электрыфікаваных участках набліжацца да не абгароджаных правадоў ці частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ВЛ).
6. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах.
7. Правозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.
8. Курыць у вагонах (у тым ліку і ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва неўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовага і дальняга следавання.
12. Бегчы па пасадачнай платформе побач з вагонам цягніка, які прыбывае або адыходзіць.

Маладзечанская дыстанцыя пуці, калектыў якой звяртаецца да чытачоў, размешчаная ў 9 раёнах Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцей. Калектыў абслугоўвае больш за 700 кіламетраў чыгуначных пуцей, 99 пераездаў, 74 прыпыначныя пункты і вялікую колькасць іншых збудаванняў чыгуначнага транспарту.

Усім нам далёка неабыякавы лёс загінулых ці траўмаваных на пуцях людзей.

**Паважаныя чытачы газеты! Будзьце ўважлівыя і цярплівыя на чыгунцы. У гэтым залог вашай бяспекі і бяспекі вашых родных і блізкіх.**

**Сяргей МАТРАШЫЛА, начальнік Маладзечанскай дыстанцыі пуці.**

УНП 600 199 567 Маладзечанская дыстанцыя пуці.

ФОРУМ

# Байкеры ўручылі падарункі дзецям з прытулку

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскія байкеры перадалі падарункі дзецям у сацыяльны прытулак.**

Акцыя прайшла ў межах моладзевага творчага форуму "Час жыць".

– Ініцыятыва правесці акцыю ішла ад арганізатараў форуму, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" матацыкліст **Яўген Сергіевіч.**

Сабраць байкераў на такое мерапрыемства аказалася вельмі лёгкай справай. Ні адзін чалавек, якому напярэдадні патэлефанаваў Яўген, не адмовіўся ад удзелу.

Цырымонія перадачы падарункаў прайшла падчас "фотасушкі", яшчэ аднаго праекта форуму.

Байкеры на сваіх жалезных конях прыехалі на плошчу да Палаца культуры. Паказалі ўсім прысутным некалькі трукаў на матацыклах. Затым перадалі дзеткам падарункі.

– Спадзяёмся, што гэта акцыя стане толькі першым нашым знаёмствам з дзеткамі з сацыяльнага прытулку. І мы ўпэўненыя, што ў будучыні наша сяброўства будзе працягвацца, – кажа Яўген.

Самі дзеці былі ў захапленні ад прадстаўлення, што зладзілі для іх байкеры. Пасля акцыі самыя смелыя змаглі пакатацца на матацыкле са сваімі новымі сябрамі.

Намеснік дырэктара сацыяльна-педагагічнага цэнтра Маладзечанскага раёна **Таццяна Шчэбет** ад імя ўсіх выхаванцаў падзякавала байкерам за ўвагу да дзетак з прытулку.



Фота Наталлі ТУР.

Байкер Яўген Сергіевіч з выхаванцам прытулку Русланам Вітруком.

## "Фотасушка", або Фотаздымкі на прышчэпках

**МАЛАДЗЕЧНА. Фотавыстава "фотасушка" прайшла ў межах форуму "Час жыць".**

Падчас правядзення выставы на пляцоўцы каля Палаца культуры на прышчэпках развесілі каля 150 фотаздымкаў.

Удзельнікамі фотаконкурсу выступілі ўсе ахвотныя. Сюжэты фотаздымкаў былі абсалютна розныя, адзіная ўмова для ўдзелу – фотаздымкі добрай якасці.

Адна з удзельніц фотавыставы Вольга Гладкая патлумачыла "Рэгіянальнай газеце", што галоўнае ў фотаздымках тое, што на іх жыве анёл:

– Мае фотаздымкі таксама прысутнічаюць на выставе. На адным з іх – мой брат са сваім сябрам. Сябар стаіць за спінай майго брата, распрастаўшы рукі. Ідэя фотаздымка ў тым, што нашы сябры – гэта і ёсць нашы анёлы, што ахоўваюць нас і заўсёды прыйдуць на дапамогу.

Пасля закрыцця выставы ўсе ахвотныя змаглі забраць фотаздымак, які ім найбольш спадабаўся. Калі сярод гэтых "шчаслівічыкаў" вы, то не забудзьцеся падзякаваць аўтарам фотаздымкаў. На адваротным баку кожнага здымка аўтары спецыяльна для гэтага пакінулі свае кантакты.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Вольга Гладкая і Ірына Занковіч на "фотасушцы": выстава спадабалася, бо на кожным здымку – дабро.

## Шукаеце працу – будзьце шчырыя з сабой

У сярэднім чалавек праводзіць восем гадзін на рабоце. Гэта трэцяя частка ад сутак. Таму вельмі важна, каб падабалася, прыносіла задавальненне. Толькі ў гэтым выпадку яна будзе эфектыўнай і карыснай.

Гэтымі словамі пачаў майстар-клас **Дзмітры Навіцкі** "Знайдзі СВАЮ работу" ў межах моладзевага форуму "Час жыць". Вядучы даў тэарэтычныя парады, з чаго трэба пачынаць пошук, дзе шукаць работу, як пісаць рэзюмэ. Адзначыў тыповыя памылкі пры ўладкаванні.

– Перш чым пачаць пошук, чалавек павінен адказаць сабе на тры пытанні, – заўважае Дзмітры Навіцкі. – Чаго хачу для сябе? Чаго хачу для сваёй сям'і, блізкіх людзей? Чаго чакаю ад работы?

### Чалавек павінен ўяўляць, дзе будзе працаваць

Мэта, якую чалавек ставіць перад сабой, павінна заўсёды візуалізавацца. Варта паспрабаваць уявіць працоўнае месца, убачыць сябе на ім нібы збоку.

– Важна ведаць, – адзначае вядучы майстар-класа, – праз які час мы хочам дасягнуць сваёй мэты. Шчыра адказаць сабе на пытанне, што мы не зрабілі для гэтага. Вызначыць прычыны, якія перашкаджаюць.

### Як сказаць пра вашыя "хачу"

Пасля тэарэтычнай часткі аднаму з удзельнікаў майстар-класа прапанавалі паспрабаваць магчыма выказаць свае жаданні наконт работы.

Дзмітры Навіцкі прааналізаваў тыповыя памылкі ў адказах удзельніка.

– У мэце не павінна быць адмоўя "не", – адзначае вядучы. – Усе вашы "хачу" павінны быць толькі ў сцвярджальнай форме: я хачу, я буду працаваць.

**Галіна СІНІЦА.**

### Карысныя парады Дзмітрыя Навіцкага пры напісанні рэзюмэ

1. Калі вы пішаце пра досвед работы, трэба пачынаць з інфармацыі пра месца, дзе працавалі апошні раз.
2. Пра ваш характар раскажа хобі. Гэта нашмат лепш ахарактарызуе вас, чым стандартныя азначэнні кшталту працавітая, старанная.
3. Фотаздымак не павінен быць такім, як на пашпарце. Лепш тое фота, якое падабаецца вам і вашым блізкім.
4. Калі вы шукаеце першае месца працы, рэзюмэ не павінна быць большым за адну старонку фармата А4. Калі рэзюмэ дасылае чалавек з досведам работы, можна пісаць да двух старонак
5. Тэкст неабходна разбіць на часткі, каб было зручна чытаць.
6. Дасягненні і рэкамендацыі выдатна пакажуць вас.

ПАРТНЁРСТВА

## Дзве вучаніцы з Маладзечна паехалі вучыцца ў Германію

**МАЛАДЗЕЧНА. Асноўная мэта праекта ЮНЕСКА, у межах якога ад 19 да 26 верасня Маладзечна наведалі нямецкія госці, – абмен вучнямі паміж гімназіяй з горада Гётынген і маладзечанскай школай №5.**

Сёлета ўпершыню за 17 гадоў на шасцімесячную стажыроўку ў Германію адправілі дзвюх вучаніц: **Крысціну Клімовіч** і **Юлію Хвясечку**.

– Мы з Юляй падалі заяўкі і напісалі рэзюмэ, – распавядае Крысціна. – Якім жа было наша здзіўленне, калі нам абедзвюм уручылі запрашэнні на навучанне! Як патлумачылі пазней, госці ацанілі ў нас добрае валоданне нямецкай мовай, камунікабельнасць і актыўнасць.

Тыдзень падарожжа па Беларусі запомніўся школьнікам з Германіі цікавай праграмай, гасціннасцю і ветлівасцю людзей, а таксама сонечным надвор'ем. Экскурсіі па горадзе, пікнік, аквапарк, пейнтбол, більярд, боўлінг, сустрэча з начальнікам аддзела адукацыі, спорту і турызму **Інай Драпезай** – толькі частка культурнай праграмы.

У цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" яны наведалі выставу дэкаратыўна-прыкладной і тэхнічнай творчасці, пасля чаго педагогі цэнтра **Святлана Бялова**, **Наталля Сівая** і **Вольга Маслава** запрасілі на майстар-класы. На іх кожны мог сам зрабіць сабе сувеніры: паштоўкі з выявай герба Маладзечна, абрадавыя лялькі, якія прыносяць поспех.

Падлеткі жылі ў сем'ях, у якіх ацанілі добразычлівасць і разнастайнасць ежы. Найбольш спадабаліся беларускія чыпсы, глазураваныя сыркі, халва і салодкі батончык.

– Мне паездка вельмі спадабалася, – падзялілася ўражаннямі 14-гадовая госця з Гётынгена **Мары Грэмлер**. – Маладзечна ўразіла разнастайнасцю колераў. У Залессі пазнаёміліся з жыццём і творчасцю вялікага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага. Якая ў яго прыгожая музыка!

Вучні і педагогі з Германіі падчас свайго знаходжання ў Маладзечне перадалі ў дзіцячую бальніцу 1500 тэст-палосак для дзяцей, хворых на цукровы дыябет.

**Серафіма ЖУКОЎСКАЯ, школа журналістыкі "Маладзік".**

ХАКЕЙ

# “Лядовыя пінгвіны” пачалі новы сезон

**МАЛАДЗЕЧНА. Сезон для каманды пачаўся з прыемных перамен. З гэтага года яна ўваходзіць у структуру прэзідэнцкага спартыўнага клуба.**

Падзяліцца навіной і расказаць пра свае планы да нас у рэдакцыю завіталі гульцы каманды: **Вадзім Маліха, Сяргей Траццяк, Алег Таранікаў і Аляксей Кароткі, а таксама трэнер “Лядовых пінгвінаў” Андрэй Пічуха.**

– Насамрэч, сезон ужо пачаўся, – кажа Сяргей Траццяк. – Цяпер мы ў чаканні дамашніх матчаў.




Фота Наталлі ТУР.

У гасцях у “Рэгіянальнай газеты” – “пінгвіны”. Злева направа: сядзяць Аляксей Гладкі і Алег Таранікаў, стаяць Сяргей Траццяк, Андрэй Пічуха і Вадзім Маліха.

**Першая дамашняя гульня “Пінгвінаў” адбудзецца 12 кастрычніка. Пачатак у 15.00. Уваход вольны.**

**Алег Таранікаў**: – Мы сёлета гуляем на дывізіён вышэй, і гэта ўжо своеасаблівае дасягненне. Калі раней за лёд, за выезды нам даводзілася плаціць з уласнай кішэні, то цяпер для нас усё гэта бясплатна.

**– Раскажыце пра тыповы дзень гульца “Лядовых пінгвінаў”?**

**Вадзім Маліха**: – Мы ўсе працуем, таму тыповы дзень гульца, як любога нармальнага чалавека, – гэта праца. Трэніроўкі ў нас праходзяць двойчы на тыдзень. Пачатак – у 22 гадзіны.

**Аляксей Кароткі**: – Таму першы час жонкі не верылі, што мы, на ноч гледзячы, ідзём на лёд, а не на “гулі”.

**Сяргей Траццяк**: – Гаварыць, што хакей – гэта захапленне, няправільна. Хакей – гэта лад жыцця. А Вадзім Маліха і Андрэй Пічуха яшчэ і дзетак трэніруюць.

**– З чаго пачыналіся “Лядовыя пінгвіны”?**

**Сяргей Траццяк:** – Для мяне хакей пачаўся ў шэсць гадоў, калі я ўпершыню стаў на канькі.

**Алег Таранікаў**: – А для мяне ў пяць год. Зімой залівалі каток на гарадошным стадыёне, трэніраваліся.

**– А летам?**

**Вадзім Маліха:** – А летам не залівалі! (Смяюцца).

**– Ці памятаеце сваю першую гульню ў складзе каманды?**

**Сяргей Траццяк:** – Падчас “Дажынак”, што праходзілі ў Маладзечне, была гульня супраць каманды міністра ў Лядовым палацы, які тады толькі адкрыўся. Мы выйгралі.

### Нам цяжка падладзіцца пад расклад “Дынама”

**– Як ставіцеся да новай каманды “Дынама-Маладзечна”?**

**Сяргей Траццяк** (пасля працяглай паўзы): – Ну, як вам сказаць. З аднаго боку, канешне, здорава, што хакей у Маладзечне развіваецца, а з іншага – падпарадкоўвацца іх раскладу не вельмі прыемна.

**Андрэй Пічуха**: – Цяпер нават трэніроўкі дзяцей мы распісваем па іх раскладзе. А як патлумачыць дзіцяці, што трэніроўкі не будзе, таму што трэніруецца “Дынама”?

**Алег Таранікаў**: – З прыходам “Дынама-Маладзечна” нашы дамашнія матчы таксама апынуліся пад пагрозай. Ледзьве выбілі сабе час у 15.00 па нядзелях.

**– За гульнямі сочыце? На трэніроўкі ходзіце?**

**Вадзім Маліха:** – А нашто нам іх трэніроўкі, у нас свой трэнер выдатны!

– А згуляць супраць дынамаўцаў не хочаце?

**Сяргей Траццяк:** – Я думаю, мы і згуляем. Нездарма наш дэвіз: “Новы сезон – новы выклік!”.

**Наталля ТУР.**

## 30 дзяцей супраць чатырох хакеістаў

### Гульцы “Дынама-Маладзечна” зладзілі майстар-клас

**МАЛАДЗЕЧНА. 30 верасня трэнер каманды “Дынама-Маладзечна” Аляксей Гіро разам з гульцамі Антонам Мохаравым, Сяргеем Гарошкам і Антонам Легуном правялі трэніроўку для маленькіх выхаванцаў каманды “Алімпік-2011”.**

Такі майстар-клас дынамаўцы зладзілі ўпершыню.

– Але перад кожным дамашнім матчам такія трэніроўкі могуць стаць традыцыйнымі, – расказаў “Рэгіянальнай газеце” начальнік каманды “Дынама-Маладзечна” **Дзмітры Мельнік**.

Дзмітры Мельнік адзначыў, што падобныя сустрэчы – гэта стымул і для дзяцей, і дадатковая трэніроўка для гульцоў.

**Сяргей Гарошка**, гулец “Дынама-Маладзечна”, трэніраваўся разам з дзецьмі, распавёў, што дарэмна думаюць, што для дарослых хакеістаў гэта лёгкая размінка.

– Трэніруюся і ўспамінаю пра тое, якім я быў сам. І ўявіць не мог, што буду для кагосьці прыкладам. І такія трэніроўкі павінны быць. Хочацца верыць, што маленькім гульцам сённяшні выхад на лёд спадабаецца.

**– Як гулец з досведам, якую б асноўную параду маглі даць тым, хто толькі цяпер вырашыў займацца спортам?**

– Мая парада – гэта тры словы: слухаць, выконваць, працаваць.



Фота Наталлі ТУР.

Хакеіст “Дынама-Маладзечна” Сяргей Гарошка і выхаванцы дзіцячай хакейнай каманды аднолькава ўважліва слухаюць парады трэнераў.

Маладзечанская каманда “Дынама” толькі пачала працаваць. Напярэдадзе ў яе яшчэ шмат сюрпрызаў для аматараў хакея. Цяпер адна з галоўных задач кіраўніцтва каманды – адкрыццё ў горадзе магазіна каманднай атрыбутыкі. Ужо закупілі мэблю для яго, таму ў хуткім часе магазін пачне працаваць.

На пытанне, ці плануе “Дынама-Маладзечна” згуляць з маладзечанскай аматарскай камандай “Лядовыя пінгвіны”, Дзмітры Мельнік адказаў:

– Давайце дамаўляцца! Я бачу не проста адну святочную гульню, а цэлую серыю гульняў.

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

### “Смаргонь”: адно ачко ў дзвюх гульнях на выездзе

**СМАРГОНЬ.** Пасля серыі перамог футбольны клуб “Смаргонь” збавіў абароты. Адразу смаргонцы 20 верасня гулялі з “Іслаччу” з Мінскага раёна.

– Кадравыя страты ў асобах **Аляксея Скварнюка** і **Аляксандра Сямёнава** не дазволілі “Смаргоні” згуляць у поўную сілу. Таму былі праблемы ў сярэдзіне поля, – расказаў прэс-аташэ ФК “Смаргонь” **Уладзімір Амбрасевіч**.

Да 64-й хвіліны гаспадары давялі лік да 3:0.

Нельга сказаць, што перавага гаспадароў была падаўляючай, падкрэсліў Уладзімір. Былі некалькі магчымасцяў для ўзяцця варот і ў “чырвона-чорных”, але яны здолелі толькі забіць гол прэстыжу. На 72-й хвіліне **Мікалай Рындзюк** рэалізаваў пенальці.

У наступным туры “Смаргонь” у гасцях сустракалася 27 верасня з ФК “Смалявічы-СТІ”.

Сустрэча завяршылася ўнічыю 1:1. Першымі вызначыліся смаргонцы: на 15-й хвіліне зноў гол забіў Мікалай Рындзюк.

У другім тайме на 62-й хвіліне выдалілі варатара “Смаргоні” **Радзівона Жука**.

Нападаючы “Смалявічаў-СТІ” выйшаў “сам-насам” з галкіперам, той кінуўся ў ногі і збіў гульца.

Гаспадары рэалізавалі пенальці і зраўнялі лік.

### Гулец “Смаргоні” – у юнацкай зборнай

**СМАРГОНЬ.** Нападаючы “Смаргоні” **Максім Яблонскі** ў другі раз атрымаў выклік у юнацкую зборную Беларусі (U-19). Спачатку пройдзе навучальна-трэніровачны збор. Затым каманда адправіцца ў Люксембург для ўдзелу ў кваліфікацыйным раўндзе чэмпіяната Еўропы-2015.



Фота Уладзіміра АМБРАСЕВІЧА.

Нападаючы “Смаргоні” Максім Яблонскі.

Па выніках збораў, магчыма, адправіцца ў Люксембург і Максім.

### “Маладзечна-ДЮСШ-4” адарвалася ад пераследніка

**МАЛАДЗЕЧНА.** У чэмпіянаце вобласці “Маладзечна-ДЮСШ-4” 28 верасня дома лёгка абыграла “Зорку-РФАЦ-Вікторыя” 4:0. Тройчы вызначыўся **Павел Майсяёнак**. Яшчэ адзін гол – на рахунку **Сяргея Лавора**.

Гэта перамога дазволіла “Маладзечну-ДЮСШ-4” замацаваць лідарства і адарвацца ад каманды, што ідзе другой. Адрыў ад “Жодзіна-2007” (каманда ў гэтым туры прайграла) складае тры ачкі.

### “Вілія” – 12 месца, “Валожын-2010” – 20

**ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН.** Дзве каманды з рэгіёна завяршылі стыкавыя гульні за 9-20 месцы ў чэмпіянаце вобласці.

У Дзяржынску 28 верасня **“Вілія”** сустракалася з **“Лівадзіяй-Юні”**. Гульня для віляйчан скончылася сакрушальным паражэннем 2:11. Першы матч завяршыўся з лікам 1:1.

“Вілія” заняла 12 месца. Апошняе месца ў чэмпіянаце – у “Валожына-2010”. У гульні ў адказ з “Нясвіжам” валожынцам зноўку залічылі тэхнічнае паражэнне 0:3.

### Мядзяльчанін хутчэй за ўсіх прабег дзве мілі

**МЯДЗЕЛ.** У Мінску 27 верасня адбыліся спаборніцтвы па бегу “Міжнародныя дзве мілі Міру”. Прысвячаліся яны Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. Мядзяльчанін **Аляксандр Быкаў** ва ўзроставай групе 60-69 год заняў першае месца.

### Лідары не змяніліся

**ВІЛЕЙКА.** На выхадных прайшлі чарговыя гульні чэмпіянату Вілейскага раёна па футболе. “Шлявічы” перамаглі “Чурлёны” 3:0. “Мехатроніка” – “Вязынь” 4:1, паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

Тройка лідараў выглядае так: “Першы Беларускі” (27 ачкоў), “Мехатроніка” (22), “Чурлёны” (16).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Шахматысты з Маладзечна другія ў абласных спаборніцтвах

**МАЛАДЗЕЧНА.** Абласныя спаборніцтвы па шахматах сярод юнакоў і дзяўчат праходзілі ў Маладзечне 26-28 верасня.

Лёс першага і другога месца вырашыла партыя 1 тура, у якой маладзечанская ўдзельніца **Аліса Качаткова** саступіла сваёй саперніцы з Дзяржынска.

Каманда-пераможца з Дзяржынска прадставіць Мінскую вобласць на рэспубліканскай алімпіядзе па шахматах, якая пройдзе 15 кастрычніка ў Маладзечне.

**Наталля ТУР.**

# Камент-эксперт



**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Валеры Апарык: "Галоўныя мае крытыкі – дзеці"

Вельмі прыгожыя скульптуры! Асабліва дзецям падабаюцца! *Лія.*

Дзякуючы гэтым скульптурам горад стаў самабытным, непадобным на іншыя гарады Беларусі. Пабольш б такіх творчых людзей, якія робяць жыццё вакол нас прыгожым! *Віляйчанін.*

Спадабалася скульптура. Глядзіш на яе і адразу ў тваёй душы ўзнікаюць пачуцці радасці, замілавання. Скульптуры па матывах казак па ўсім свеце збіраюць найбольш гледачоў, бо малых дзяцей ад іх не адцягнуць. Нават дарослым хочацца побач сфатаграфавацца. *Ар'я.*

### У Маладзечне зславілі дынастыю самагоншчыкаў

Раней былі дынастыі настаўнікаў, дактароў. У наш жорсткі час усё настолькі памянялася, што існуюць дынастыі самагоншчыкаў. *Лія.*

### Вітольд Марач з Мядзельшчыны, дэпутат Вярхоўнага Савета, што трапіў у чорны спіс КДБ

Жывеш і не ведаеш пра такіх герояў, якія сваім жыццём паказваюць узор чалавечнасці. Вось яны, людзі, на якіх варта раўняцца, якіх не схіліць. Але сапраўдных герояў у нас прынята хаваць у куфар. *Аж.*

● **ПАПРАЎКА**



Фота Наталлі ТУР.

Ірына Мечыславаўна з унучкай Настачкай і ўнукам Ванечкам (ён спіць у калясцы).

У нумары 39 "Рэгіянальнай газеты" ад 26. 09. 2014 года ў тэксце пра вечары адпачынку ў гарадскім парку па віне карэспандэнта памылкова быў змешчаны фотаздымак з некарэктным подпісам у адносінах да героя гэтай фатаграфіі – **Ірыны Мечыславаўны**.

Ірына Мечыславаўна – клапатлівая бабуля, якая ўвесь вольны час прысвячае двайм сваім унукам. Унучцы Настачцы 7 гадкоў, яна ходзіць у першы клас. Унуку Ванечку толькі 6 месяцаў, і выхоўваць яго бабулі дапамагае Настачка. Яна ведае і як карміць яго, і як забаўляць, каб не плакаў.

Рэдакцыя просіць прабачэння ў Ірыны Мечыславаўны.

**Аддзел інфармацыі.**

● **ГАРАСКОП (3-9 КАСТРЫЧНІКА)**

**Авен.** Не падвяргайце свой арганізм нагрузкам. Больш адпачывайце і высыпайцеся.

**Цялец.** Прыйшоў час заняцца аўтамабільнай тэмай. Ці гэта запісацца на курсы кіроўцаў, ці прайсці тэхагляд, ці набыць новую машыну. І будзьце ўважлівыя за рулём.

**Блізняты.** Стаўце перад сабой мэты і ідзіце насустрач ім, хоць і невялікімі крокамі, але ўпэўненымі. І ніколі не кажыце сабе не.

**Рак.** Жыць на поўную катушку – дэвіз, які вы павінны вывучыць. Не бойцеся выдзяляцца, ваш чакае галавакружны поспех.

**Леў.** У вас не будзе невырашальных праблем. Што б вы ні рабілі, вам будзе спадарожнічаць поспех і ўдача. Гэта тычыцца асабліва тых, хто займае пост начальніка ці работніка творчай сферы.

**Дзева.** Вы падвержаныя эмацыйным усплёскам і больш нацэленыя на ажыццяўленне чужых, а не ўласных планаў.

**Шалі.** Калі ў адносінах ужо даўно ёсць напружанасць і канфліктнасць, то гэты месяц стане нейкім пераломным рубяжом, які вызначыць будучае вашай пары. Слухайце голас свайго сэрца, каб не памыліцца з рашэннем.

**Скарпіён.** Цудоўны час для ўзнаўлення гармоніі ў адносінах з блізкімі. Схадзіце куды-небудзь разам, напрыклад, у кіно, на выставу, з'ездзіце ў цырк, правядзіце вечар разам усёй сям'ёй...

**Стралец.** Наступілі халады. Каб вам было ўтульна і цёпла, дадайце святла ў інтэр'ер кватэры, дома. І ўвогуле абнавіце дызайн жылля.

**Казярог.** Спрыяльны перыяд для лячэння і прафілактыкі любых хвароб. Верце ў сябе, любіце сябе. Ведайце, што вы для сябе – самыя галоўныя.

**Вадалей.** Прадуктыўны, але і складаны перыяд. Вы заўсёды імкняцеся быць на вышыні, быць першым, часам можаце зрабіць немагчымае магчымым. Але бывае, што нешта і вам не па зубах. Галоўнае, не расслабляйцеся, ідзіце да пастаўленай мэты.

**Рыбы.** Калі вам здаецца, што вы моцна стаміліся ад адносін, то не варта рабіць з мухі слана. Жыццё з другім чалавекам складаецца не толькі з радасці. Галоўнае, захаваць каханне. Вашы блізкія любяць вас і цэняць, а гэта самае важнае.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Казка пра чырвоную стужачку"**, Галіна Латышава, Алег Чэчанеў
7, аўторак, – у 11:30

**"Кошкі-Мышкі"** (казка-гульня па матывах п'есы Аркадзя Хайта "Дзень нараджэння ката Леапольда")
14, аўторак, – у 12:30

**"Казка пра чырвоную стужачку"**, Галіна Латышава, Алег Чэчанеў
26, нядзеля, – у 11:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. **"Не такі, як усе"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі*
3, пятніца, – у 19:00

**"Вечар"** (лірычная меладрама), *Аляксей Дудараў*
7, аўторак, – у 19.00

**"Псіхааналітык для псіхааналітыка"** (камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*
8, серада, – у 19:00

**"Верная жонка"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Сомерсет Моэм*
9, чацвер, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Афінскія вечары"** (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*

**Спектакль прысвячаецца Дню маці**
14, аўторак, – у 19:00

**"Любоў па-італьянску"** (трагікамедыя па матывах п'есы Э. дэ Філіпа "Цыліндр"), *Эдуарда дэ Філіпа*
15, серада, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Нязваны госць"** (ну, ве-е-ельмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
16, чацвер, – у 19.00

**"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы), *Юры Вута*
21, аўторак, – у 19:00

**"Чатыры навелы пра каханне"**, *С.Злотнікаў, В.Распуцін, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі*
22, серада, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Падобны на Стынга"** (рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
24, пятніца, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Афінскія вечары"** (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*
25, субота, – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
28, аўторак, – у 19:00

**"Шукаю сапраўднага мужчыну"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
29, серада, – у 19:00

**"№13"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
30, чацвер, – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" пакажа ў кастрычніку

**АДКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА**

**"Цалёвачка"** (музычная казка), *Ю.Шчуцкі*
5 кастрычніка – у 12:00

**"Шматочкі па закуточках"** (жыццёвая гісторыя), *Р.Осцер*
12 кастрычніка – у 12:00

**"Васіліса прыгажуня"** (чарадзейная казка), *К.Чарняк*
19 кастрычніка – у 12:00

**"Чырвоная шапачка"** (добрая казка), *Я.Шварц*
26 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27**.

● **РЭПЕРТУАРЫ**



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Крымінальны трылер **"Вялікі ўраўняльнік"** (ЗША, 2014, ад 16 год)
3, 4 кастрычніка – у 22:00
5 кастрычніка – у 18:30
6 кастрычніка – у 21:00
8 кастрычніка – у 21:00
9 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Жахі **"Пракляцце Анабэль"** (ЗША, 2014, ад 18 год)
4 кастрычніка – у 19:30
5 кастрычніка – у 21:00
7 кастрычніка – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя **"Выпускны"** (Расія, 2014, ад 18 год)
9 кастрычніка – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, прыгоды **"Зіп і Зап. Клуб шкляных шарыкаў"** (Іспанія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
9 кастрычніка – у 17:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастычны трылер **"Бягучы ў лабірынце"** (ЗША, 2014, ад 16 год)
4 кастрычніка – у 17:00
5 кастрычніка – у 16:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя **"Карпаратыў"** (Расія, 2014, ад 18 год)
3 кастрычніка – у 20:00
6 кастрычніка – у 19:00
7 кастрычніка – у 21:00
8 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Сямейныя прыгоды **"Гісторыя дэльфіна 2"** (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
3 кастрычніка – у 17:30
4 кастрычніка – у 14:30
5 кастрычніка – у 13:30
Цана білета: 25 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя **"Самотны па кантракце"** (Украіна, 2014)
3 кастрычніка – у 19:30
5 кастрычніка – у 17:30
7 кастрычніка – у 21:30
8 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер **"Окулус"** (ЗША, 2013, ад 16 год)
3, 4 кастрычніка – у 21:30
5 кастрычніка – у 19:30
6 кастрычніка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды **"Неверагоднае перамяшчэнне"** (Беларусьфільм, 2014)
3 кастрычніка – у 17:00
5 кастрычніка – у 16:00
6 кастрычніка – у 15:30
Цана білета: 20 000 – 15 000 рублёў

Драма, спорт **"Чыстая перамога"** (Расія, 2012, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 кастрычніка – у 19:00
5 кастрычніка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер **"Паветраны маршал"** (Вялікабрытанія, Францыя, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7 кастрычніка – у 19:30
8, 9 кастрычніка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя **"Бландзінка ў эфіры"** (ЗША, 2014, ад 16 год)
9 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

Камедыя **"Танцуй адсюль"** (Вялікабрытанія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3, 5 кастрычніка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя **"Адзінокі па кантракце"** (Украіна, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
4 кастрычніка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Баявік **"Тры дні на забойства"** (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3, 4, 5 кастрычніка – у 21:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды **"Неверагоднае перасоўванне"** (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
4 кастрычніка – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Анімацыя **"Мая мама – самалёт"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
5 кастрычніка – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006



Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

### 4 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +4 / +12 | | +4 / +11 | | +8 / +10 | | +5 / +7 | |
| | 754 | ↖ 1 | 752 | ← 2 | 750 | ↙ 3 | 750 | ← 5 |
| Вільня | +4 / +13 | | +4 / +14 | | +6 / +12 | | +7 / +9 | |
| | 762 | ← 1 | 760 | ← 3 | 758 | ← 4 | 758 | ← 8 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.21
Захад 18.41
Даўжыня дня 11.20

Усход 16.12
Захад 1.35
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- Дзень Іаана Багаслова (9 кастрычніка). Апошняя мяжа палявых работ селяніна. "Хто не дасее да Івана Багаслова, той не варты добрага слова". Зямля атрымлівае за свае дары нябеснае блаславенне на спакой да вясны. Пачыналіся восеньскія сватанні і вяселлі.
- У кастрычніку на адной гадзіне і дождж, і снег.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Наколькі дрэннае пачуццё прыгожага ў віляйчан? Ці могуць негатыўна ўплываць на дзіця казачныя скульптуры? Ці мае права беларуская культура на самастойнае існаванне?**

## КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

### Затрымалі мужчыну з наркотыкамі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Яго схапілі каля 15 гадзін 24 верасня непадалёк ад прыпынку каля Лядовага палаца.

Падчас вобыску ў яго знайшлі белы парашок, які з'яўляецца асабліва небяспечным псіхатропным рэчывам.

За захоўванне наркотыкаў без мэты продажу асоба можа быць асуджаная ў тым ліку і да пазбаўлення волі тэрмінам да пяці гадоў.

### Маладзечанка захоўвала ў сябе дома 20 кілаграмаў маку

**МАЛАДЗЕЧНА.** Вядома, што 400 грамаў жанчына прадала за 400 тысяч рублёў.

Ёй пагражае адміністрацыйная адказнасць і штраф у памеры ад 70 да 90 базавых велічынь з канфіскацыяй маку.

**Уладзімір ВАСІЛЬКОЎ, намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні.**

### На мужчыну абвалілася паветка

**МЯДЗЕЛ.** Пасля шасці гадзін вечара 25 верасня мядзельскім выратавальнікам паведамілі пра здарэнне ў вёсцы Баяры ля райцэнтра.

Мужчына пайшоў у драўляную паветку – па папярэдняй інфармацыі, хацеў яе разабраць.

Але паветка абвалілася. Чалавек апынуўся пад завалам.

Выратавальнікі з дапамогай бензапілы вызвалілі мужчыну. Яго шпіталізавалі, паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ігар Балаш.**

### У Ашмянах загарэліся тры аўтацягнікі

**АШМЯНЫ.** Пажар пачаўся а палове другой ночы. Людзі не пацярпелі. Агонь ахапіў тры сядзельныя цягачы з рэфрыжэратарамі, піша mchs.gov.by. Два з іх былі загружаныя прадукцыяй. Адзін пусты.

Стаялі аўтамабілі на арэндаванай пляцоўцы пад склад часовага захоўвання. Тэрыторыя абгароджаная, ёсць асвятленне, арганізаваная кругласутачная ахова.

**Аддзел інфармацыі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 40 (1014) 03.10.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 835. Падпісана ў друк у 10.00 02.10.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.